18 ліпеня 2014 | № 28 (397)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Ангела Меркель: Аперацыя «пераемнік»**
стар. 13

**3 НА ПАРОЗЕ ГРАНДЫЁЗНАГА РАСПРОДАЖУ**
Эканамічны цуд крыштальнага сасуда прыйшоў да свайго лагічнага завяршэння. Ад прыватызацыі нікуды не падзецца. А дакладней — ад грандыёзнага распродажу айчыннай уласнасці

**5 НА ЧЫМ ГРУНТУЕЦЦА ЎЛАДА ЛУКАШЭНКІ**
Дваццаць гадоў таму, 20 ліпеня 1994 года, адбылася інаўгурацыя першага прэзідэнта Беларусі, якім стаў дырэктар саўгаса «Гарадзец», дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання 39-гадовы Аляксандр Лукашэнка

**12 КЛОУНЫ СУПРАЦЬ КРЫЗІСУ**
Закончыўся беспрэцэдэнтны эксперымент, калі чатыры гады горадам кіравала партыя артыстаў і панкаў


**14 ІГНАТ УРУБЛЕЎСКІ — ЗАБЫТЫ МАСТАК СА ЗНАКАВАГА РОДУ**
У экспазіцыі выставы «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» сярод славутых твораў чымсьці невытлумачальным чапляў партрэт мужчыны сталага веку з іскрыста-блакітнымі вачыма

# А вёска слухае ды п’е

## Аляксандр Рыгоравіч пужае сельскую гаспадарку тым, чаго не можа быць



Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандр Лукашэнка неаднаразова абяцаў, што возьмецца за праблему сельскай гаспадаркі, як у свой час браўся за будаўніцтва. Дзеля гэтага была створана адмысловая працоўная група, якую напачатку тыдня прыняў кіраўнік дзяржавы.**

Сітуацыя ў сельскай гаспадарцы вельмі дзіўная. У першым квартале 2014 года, па дадзеных Белстата, 24% сельгаспрадпрыемстваў у Беларусі былі стратнымі, нягледзячы на тое, што вытворцам і экспарцёрам беларускага харчавання аказваецца беспрэцэдэнтная дзяржаўная падтрымка. Так, 28 верасня 2013 года Лукашэнка агучыў: штогадовая дапамога вёсцы складае да 2 мільярдаў долараў, а ўсяго за апошнія гады ў сельгаспрадпрыемствы было інвеставана 50 мільярдаў долараў. А гэта амаль чатыры бюджэты ўсёй Беларусі на 2014 год!

У тым жа першым квартале 2014 года рэнтабельнасць сельгасарганізацый склала 5,7%, нягледзячы на тое, што нашы кошты даўно пераўзышлі польскія і літоўскія. Значная частка беларускай сельгаспрадукцыі экспартуецца ў Расію, але і гэта стратаў не перакрывае.

Такім чынам, мы «закапалі ў зямлю» аграменныя грошы без якога-кольвек бачнага эфекту.

Лукашэнка знайшоў, здавалася б, простае выйсце з гэтага тупіка. «Сёння ўжо цэны на сельгаскагаспадарчую прадукцыю як гуртам, так і раздробна такія, што нашай сельскай гаспадарцы, якая атрымала немалую падтрымку ад дзяржавы ў папярэднія дзве пяцігодкі, можна жыць самастойна і зарабляць», — заявіў Лукашэнка. «Мы дамовіліся, што мы павінны падтрымаць тых, хто сёння можа выйсці на бясстратную працу і працаваць самастойна, а тым, якія не хочуць і не могуць, мы павінны даць тэрмін як мінімум да канца года і прыватызаваць, прадаць тым, хто хоча працаваць. Таму хай думаюць і вырашаюць», — запатрабаваў беларускі кіраўнік, напалохаўшы, што пасля змены ўласніка кіраўніцтву і супрацоўнікам такіх прадпрыемстваў прыйдзецца шукаць новую працу.

Варта зазначыць, што Аляксандр Рыгоравіч ужо не ў першы раз пужае вяскоўцаў альбо пазбаўленнем дзяржпадтрымкі, альбо выхадам на самаакупнасць, альбо новымі ўласнікамі. Былі і «рэвалюцыйныя захады» кшталту абавязкаў прыбытковым прадпрыемствам і арганізацыям (кшталту Нацбанка) узяць «шэфства» над занядбанымі калгасамі. Была і спроба продажу стратных сельгаспрадпрыемстваў «за адзін рубель» тым, хто, на думку кіраўніцтва, здольны падняць сельскую гаспадарку.

Але нездарма ў савецкія часы існавала показка: «Ці можа слон захварэць на грыжу? — Так, калі паспрабуе падняць сельскую гаспадарку». Сапраўды, некаторыя «падшэфныя» моцным прадпрыемствам і банкам калгасы і саўгасы выйшлі на новы ўзровень. Скажам, сетка сельгасарганізацый «пад Нацбанкам» была аб’яднаная ў агракамбінат «Мачулішчы». У развіццё агракомплексу цэнтральны банк краіны ўклаў, па лічбе на пачатак 2010 года, больш за 600 мільёнаў долараў.

Аднак, па-першае, не ва ўсіх калгасах былі такія спонсары. Па-другое, як ні вярці, але гэта ўсё роўна — апасродкаваная дзяржпадтрымка сельскай гаспадаркі. Ад якой, нагадаем, кіраўнік дзяржавы імкнецца (прынамсі, на словах) пазбавіцца.




**«Ці можа слон захварэць на грыжу? — Так, калі паспрабуе падняць сельскую гаспадарку»**

Ну і, канешне, прыбытковым прамысловым прадпрыемствам і дарма не патрэбныя актывы, якія «праядаюць» іхні прыбытак. Таму яны ад такіх «няпрофільных» актываў усімі шляхамі імкнуцца пазбавіцца.

Тое ж самае адбылося з «прыватызацыяй за адзін рубель». Яна не мела поспеху, таму што ў дадатак да купленага прадпрыемства той, хто пажадаў гэта зрабіць, атрымліваў усе абавязкі па пазыках гэтага сельгаспрадпрыемства. А да таго ж павінен быў захаваць ягоны профіль і працоўных. Аб стварэнні на месцы кароўніка, напрыклад, аграсядзібы альбо вырошчванні на бульбяных палях лесу размовы не ішло. За свае грошы атрымаць шматмільённыя даўгі? Дзякуй, не трэба.

Але самай галоўнай перашкодай такой прыватызацыі з’яўляецца ўласнасць на зямлю. У кніжцы «Цяжка быць богам» братоў Стругацкіх дон Румата Эсторскі думкамі спрачаўся з Аратай Гарбатым: «Па дабрыні ты станеш раздаваць зямлю сваім паплечнікам, а нашто паплечнікам зямля без прыгонных?» Тут сітуацыя падобная, толькі без прыгонных. Можна прадаць калгас. А нашто патэнцыйнаму інвестару калгас без зямлі?

Нагадаем, на рэферэндуме 1996 года 82,88% ягоных удзельнікаў выказаліся супраць «свабодных, без абмежавання, пакупкі і продажу зямлі». І таму з прыватызацыяй сельгаспрадпрыемстваў узнікаюць праблемы юрыдычнага і маральнага плана.

Па-першае, рашэнне, прынятае на рэферэндуме, можна адмяніць толькі рэферэндумам. Па-другое, можна ўзгадаць, што рэферэндум быў «кансультацыйным». Але іншыя тады ўзгадаюць, што такімі ж кансультацыйнымі былі і пытанні аб змене Канстытуцыі і замене Вярхоўнага Савета на двухпалатны парламент. Можна звыкла «не заўважыць» вынікі рэферэндуму і дазволіць продаж зямлі «валюнтарысцкім рашэннем». Але тады трэція будуць дамагацца такога ж «валюнтарысцкага рашэння» па адмене смяротнага пакарання.

Так што ў бліжэйшым часе вёска можа піць, есці ды спаць спакойна. Ніякай прыватызацыі не будзе, таму што без зямлі сельгаспрадпрыемствы анікому не патрэбныя. Ёсць толькі адзін выпадак такой «прыватызацыі»: гэта калі занядбаны кароўнік выкупіла царква «Новае жыццё» і зрабіла ў гэтым будынку малельны дом для сваіх прыхаджан. Але і гэтую «прыватызацыю» вернікі адстойваюць амаль 10 год, праз суды і малітоўныя пратэсты.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Забаронены пікет

**Грамадскі актывіст Рыгор Грык 15 ліпеня атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што ўлада не дае згоды на правядзенне пікета 27 ліпеня.**

Пікет прысвечаны гадавіне прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Чыноўнік лічыць, што заяўнікі пікету Рыгор Грык, Сяргей Гоўша і Вячаслаў Болбат парушылі п. 5 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997г. № 114-З «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь (у рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь ад 08.11.2011г. № 308-З) і п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы» (у рэд. рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 05.10.2009г. № 2497).

«27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, але сёння гэтая падзея практычна не згадваецца, таму мы хацелі нагадаць жыхарам горада Баранавічы аб асноўных ідэях нашай Дэкларацыі. Мы выканалі ўсе патрабаванні закона, а таксама заключылі пісьмовыя дамовы з міліцыяй, паліклінікай і ЖКГ, але нам традыцыйна забараняюць усе масавыя мерапрыемствы», — паведаміў Рыгор Грык.

Планавалася, што ў пікеце прыме ўдзел каля 10 чалавек.

### МАГІЛЁЎ. Канфіскавалі незалежную прэсу

**Ноччу 16 ліпеня быў прыпынены аўтамабіль, у якім знаходзіліся экс-кандыдат у прэзідэнты ад Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) Ігар Барысаў.**

Супрацоўнікі ДАІ праверылі дакументы і сказалі, што ім з Магілёўскага РАУС паступіла арыенціроўка на аўтамабіль «Мерседэс» чорнага колеру, які нібыта здзейсніў хуліганства ў Бялынічах. Для разбіральніцтва інспектары прапанавалі праехаць у Магілёўскі РАУС.

«Як толькі сказалі, што ёсць арыенціроўка на мой аўтамабіль, я адразу зразумеў, што проста так нас не адпусцяць, бо ўсе дакументы на аўто былі ў парадку. Інспектары праверылі багажнік, атрымалі адказ, што вязем паперу ў пакунках, аднак адкрываць і глядзець, што там, не сталі. Проста суправадзілі нас у РАУС. Адметна тое, што ні ў якія Бялынічы мы па дарозе не заязджалі», — распавёў Ігар Барысаў.

У РАУСе склалі пратаколы апытанняў і пратакол агляду аўтамабіля, пасля чаго канфіскавалі да судовага разбіральніцтва друкаваную прадукцыю. У міліцыянтаў дэмакраты прабылі амаль тры гадзіны.

«Міліцыянты, як і супрацоўнікі ДАІ, былі больш чым абыходлівыя і ветлівыя. Яны цудоўна разумелі, што адбываецца, і што мы не звычайныя крымінальнікі ці дэбашыры, а прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі, якая па ўказцы зверху пераследуецца. Тым не менш, яны выканалі сваю працу», — працягвае Ігар Барысаў.

Намеснік старшыні БСДП адзначае, што бюлетэнь «Сацыял-дэмакрат» быў цалкам прысвечаны пытанням «Народнага рэферэндуму», а газета «НАШ Магілёў» — інфармацыйнай кампаніі «Захаваем стары Магілёў».

### ГРОДНА. Журналіст змагаецца

**Гродзенскі журналіст-фрылансер Андрэй Мялешка працягвае змагацца за свае правa на распаўсюд інфармацыі.**

Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў падаў касацыйную скаргу на рашэнне суда Кастрычніцкага раёну ў Гродзенскі абласны суд. 24 ліпеня калегія суддзяў павінна яе разгледзець.

16 чэрвеня намеснік старшыні суда Кастрычніцкага раёна Гродна Дзмітры Кедаль пасля некалькіх пераносаў разгляду адміністрацыйнай справы прызнаў журналіста Андрэя Мялешку вінаватым у парушэнні артыкула 22.9 КаАП за матэрыял, які быў размешчаны на сайце Беларускага Радыё Рацыя. Журналісту-фрылансеру быў вынесены штраф 4,5 мільёна рублёў за нібыта незаконны выраб і распаўсюд інфармацыі.

Андрэй Мялешка не асабліва спадзяецца, што абласны суд задаволіць яго касацыйную скаргу (аналагічныя скаргі сябраў БАЖ Алеся Дзянісава і Алеся Залеўскага, якія былі штрафаваныя па гэтым жа артыкуле, не былі задаволеныя), але мае намер працягваць змагацца за свае канстытуцыйныя правы.

**Паводле spring96.org**

# Міліцыя Оршы дзейнічае

**У Оршы на распаўсюднікаў расійскіх сцяжкоў склалі пратаколы**

Пытанне, чаму за выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга забіраюць у пастарунак, а расійскія сцяжкі бесперашкодна распаўсюджваюцца, нават калі гэта выклікае абурэнне грамадзян, паўстала ўжо даўно. Урэшце аршанская міліцыя адрэагавала.

Аршанец Яўген Анішчанка, актывіст аргкамітэту па стварэнні партыі БХД, распавёў пра інцыдэнт каля станцыі Хорабрава пад Оршай:

«Мы ўбачылі двух хлопцаў са сцяжкамі, сцяжкоў у іх было шмат — яўна не для ўласнага выкарыстання. І выклікалі міліцыю. Міліцыянты адрэагавалі хутка: прыехалі, затрымалі распаўсюднікаў — а гэта аказаліся хлопцы з Барысава — і склалі адміністрацыйныя пратаколы за несанкцыянаваны гандаль. Абодва хлопцы глуханямыя, аднак яны здолелі патлумачыць, што сцяжкі ім прывозяць з Расіі бясплатна, а ў Беларусі яны іх прадаюць за грошы. Такім чынам зарабляюць».

Гэта першы выпадак, калі міліцыя адэкватна адрэагавала на скаргі наконт распаўсюду расійскіх трыкалораў. Бо некалькі месяцаў таму падобны інцыдэнт адбыўся ў Віцебску, але міліцыянты так і не прыехалі разбірацца са скаргай праваабаронцы Паўла Левінава:

«Я бачыў, што расійскія сцяжкі дзяўчына распаўсюджвае проста на дарозе: пакуль машыны стаяць на светлафоры, яна падыходзіць да кіроўцаў і прадае сцяжкі. І адбываецца гэта ў самым цэнтры Віцебску, каля плошчы Перамогі. Такім чынам, ствараецца аварыйная сітуацыя, парушаны правілы дарожнага руху, могуць пацярпець людзі... Пра ўсё гэта я распавёў дзяжурнаму па тэлефоне 109. Патэлефанаваў і ў ДАІ, мне паабяцалі, што «прыедуць і разбяруцца», аднак ніхто так і не прыехаў».

**Паводле spring96.org**

# Цэнзараў трэба высмейваць

**Кампанія «Рок-салідарнасць» абвясціла конкурс творчых працаў, прысвечаны забароненым музыкам, паведамляе партал tuzin.fm.**

Арганізатары кампаніі канстатуюць, што «нягледзячы на адносную адлігу, у Беларусі застаецца забароненыя музыкі». Тут маюцца на ўвазе праблемы, з якімі апошнім часам сутыкнуліся гурты «Pet Nihil» і «Amaroka». «Мы заклікаем не паддавацца адчаю, а высмейваць самадурства цэнзараў ад культуры праз народную карыкатурную творчасць», — вядзецца ў афіцыйным паведамленні кампаніі. Фармат працы можа быць які-заўгодна — малюнкі, карыкатуры, вершы, апавяданні, песні, альбо проста цікавая ідэя. Усе ўдзельнікі атрымаюць падарункі ад арганізатараў конкурсу (дыскі, майкі, плакаты беларускіх гуртоў), а аўтары лепшых працаў — адмысловыя прызы ў выглядзе абанементаў на канцэрт беларускіх гуртоў на працягу года.

Дасылаць свае працы можна на мэйл: rok.salidarnasc@gmail.com да канца жніўня.

«Рок-салідарнасць» — грамадская кампанія ў падтрымку рок-музыкаў, якія трапілі ў «чорны спіс». Яна створаная 10 снежня 2011 года актывістамі грамадскіх арганізацый і аматарамі айчыннай рок-музыкі. Актывісты кампаніі інфармуюць насельніцтва пра так званыя «чорныя спісы» і пра забароны канцэртаў, раздаюць дыскі беларускіх выканаўцаў, вядуць перапіску з чыноўнікамі, ладзяць выступы айчынных музыкаў і флэш-мобы.

# Асамблея НДА зробіць лепш

**Стартавала новая хваля кампаніі «Зробім лепш!–2014». Дзейнасць у межах кампаніі ахопіць усю Беларусь і будзе арыентаваная на патрэбы грамадства.**

15 ліпеня ў Мінску адбыўся круглы стол, дзе ўдзельнікі кампаніі змаглі падзяліцца сваімі планамі, ідэямі, якія яны жадаюць рэалізаваць у межах «Зробім лепш!», а таксама абмеркаваць з іншымі прадстаўнікамі НДА супольныя дзеянні, абмяняцца кантактамі для далейшай супрацы.

Сёлета 16 няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў з Мінску, Слуцку, Брэста, Нясвіжа, Воршы, Вілейкі, Баранавічаў, Гомеля вырашылі ажыццявіць свае ідэі ў межах кампаніі «Зробім лепш!».

— Ініцыяваўшы працяг кампаніі «Зробім лепш!», Асамблея НДА імкнецца паказаць беларускаму грамадству, ды і ўладам таксама, карыснасць і каштоўнасць грамадскай дзейнасці, матываваць беларусаў да ўдзелу ў жыцці краіны. Нягледзячы на складаныя ўмовы, у межах кампаніі мы будзем працягваць замацоўваць асноўны вектар дзейнасці НДА — працу з грамадствам, — адзначаў Сяргей Мацкевіч, старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА.

Кампанія «Зробім лепш!–2014», якая працягнецца да 30 верасня, абяцае быць насычанай і прынесці карысць грамадству. Большасць арганізацыяў ды ініцыятываў ставяць сабе за мэту захаванне спадчыны свайго рэгіёну, вырашэнне сацыяльных праблемаў і актыўнае далучэнне моладзі да дзейнасці. У межах «Зробім лепш!» адбудуцца фэсты, фотавыставы, краязнаўчыя гульні, летнікі ды іншыя мерапрыемствы адукацыйнага, экалагічнага ці культурніцкага накірунку.

Асаблівая ўвага ў новай хвалі кампаніі «Зробім лепш!» будзе нададзеная папулярызацыі і паляпшэнню іміджу беларускай мовы, абароны роднай мовы ад дыскрымінацыі.

Выканаўчае бюро Асамблеі НДА Беларусі будзе выступаць пасярэднікам паміж рэгіянальнымі арганізацыямі ды ініцыятывамі, падтрымліваць іх інфармацыйна, спрыяць больш шырокаму розгаласу іх дзейнасці ў СМІ, а таксама даваць метадычныя рэкамендацыі па правядзенні кампаній.

Кампанія «Зробім лепш!» праходзіла ў 2002–2003 і 2013 гадах. «Зробім лепш!» сталася той шырокай агульнанацыянальнай кампаніяй, якая спарадзіла вялікую колькасць лакальных ініцыятываў, аб'яднала НДА з розных гарадоў і сфераў дзейнасці дзеля вырашэння праблемаў грамадства.

**Прэсавая служба Асамблеі НДА**

# Хай п'юць!

**У Клічаве мясцовыя ўлады фактычна забаранілі правядзенне імі ж дазволенага пікету супраць алкагалізацыі насельніцтва, які мусіў адбыцца 17 ліпеня.**

Ужо пасля выдачы дазволу, яны даслалі ліст, у якім паведамілі, што для правядзення пікету неабходна заключыць дамовы з міліцыяй, медыкамі, камунальнымі службамі, а таксама атрымаць дазвол ва ўладальніка крамы, побач з якой мелася прайсці акцыя.

Арганізатар пікету, актывістка аргкамітэту БХД Святлана Грыцэнка звязалася з уладальнікам крамы. Аднак той, хоць і падтрымаў пікет як чалавек, як уладальнік крамы свайго дазволу не даў. Такім чынам правядзенне пікету было сарванае.

На думку Грыцэнка, клічаўскія ўлады выдалі дазвол на пікет, не ведаўшы пра тое, што яна з'яўляецца актывісткай БХД.

Нагадаем, пікет у Клічаве быў адзіным з больш чым 100 пікетаў у 41 горадзе, замоўленымі актывістамі БХД у межах кампаніі «Абаронім дзяцей ад алкаголю», які ўлады дазволілі.

**Прэсавая служба БХД**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# На парозе грандыёзнага распродажу

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Эканамічны цуд крышталнага сасуда прыйшоў да свайго лагічнага завяршэння. Ад прыватызацыі нікуды не падзецца. А дакладней — ад грандыёзнага распродажу айчыннай уласнасці.**

Мы ўжо пісалі пра так званы «расійскі крэдыт пад ЕАЭС», які да нас не дайшоў. Замест яго мы перахапілі «хуткія грошы» ад банка ВТБ у 2 мільярды долараў, палова з якога адразу ж сышла на пагашэнне папярэдняга крэдыту таго ж банка. А палова залічаная ў золатавалютныя рэзервы. Але гэта «вялікае дасягненне» — ненадоўга.

У ліпені Беларусь павінна пагасіць тэрміновыя валютныя пазыкі. Абавязацельствы органаў дзяржкіравання (урад і Нацбанк) у валюце тэрмінам пагашэння да 1 месяца па стане на 1 ліпеня склалі $1 млрд. 107,1 млн., паведамляецца ў статыстычнай справаздачы Нацыянальнага банку краіны. Такім чынам, мільярд, які мы паспешліва залічылі ў ЗВР, будзе аддадзены замежным крэдыторам.

Тактыка «фінансавай пірамiды», калі мы аддаём адны крэдыты коштам узяцця іншых, у доўгатэрміновай перспектыве не спрацоўвае, таму што крэдыты трэба аддаваць з працэнтамі. І, падаецца, наша «пірамідка» блізкая да таго, каб ляснуцца.

Па дадзеных Нацбанку, на 1 ліпеня 2014 года афіцыйныя рэзервовыя активы і іншыя актывы ў замежнай валюце склалі $7 млрд. 194,2 млн., скараціўшыся на 1,7% за студзень-чэрвень. У тым ліку афіцыйныя рэзервовыя актывы склалі $6 млрд. 426 млн., іншыя валютныя актывы (не ўключаныя ў рэзервовыя актывы) — $768,2 млн.

Аднак, валютныя абавязацельствы ўрада і Нацбанка па пазыках і каштоўных паперах, якія трэба будзе выканаць у наступны год — у перыяд з 1 ліпеня 2014 года па 1 ліпеня 2015-га, складаюць $5 млрд. 10,4 млн. Паводле статыстыкі Нацбанка, у гэты перыяд Беларусь таксама павінна закрыць валютныя форвардныя і ф'ючэрсныя здзелкі на $657,7 млн.

Груба кажучы, калі мы разлічымся з усімі нашымі «гадавымі» абавязальніцтвамі, у нашых рэзервах застанецца толькі мільярд долараў. А крэдытаў мы набралі не на год і не на два наперад, а на дзесяцігоддзі. Чым мы далей расплачвацца будзем? Натурай? Лядовымі палацамі?

Ёсць два шляхі: зноў «патрэсці» ўласнае насельніцтва і прадаць «што-небудзь непатрэбнае». Патрэсці насельніцтва не ўдасца. З 16 ліпеня Нацбанк знізіў стаўку рэфінансавання з 21,5% да 20,5%. Эканамісты сцвярджаюць, што гэтая стаўка наблізілася да крытычнага ўзроўню, стала роўнай інфляцыі, якая па выніках чэрвеня склала акурат 20%.




За стаўкай рэфінансавання банкі вымушаныя зніжаць стаўкі па дэпазітах насельніцтва. Зараз дэпазітныя стаўкі наблізіліся да 30% гадавых, а гэты ўзровень, на думку многіх, з'яўляецца кропкай пераходу ад рублёў у валюту для насельніцтва. То бок, той мільярд долараў, які ў нас застаўся, вельмі хутка будзе выкуплены беларускімі грамадзянамі, і... І ўсё, краіна — без валюты.

Застаецца прадаць «што-небудзь непатрэбнае». На гэтым тыдні прэм'ер Міхаіл Мясніковіч запэўніў намесніка старшыні ўрада РФ Дварковіча, што «ўсе тэрміны па ключавых інтэграцыйных праектах з РФ у прамысловасці будуць вытрыманыя».

Дварковіч у інтэграцыі не займаецца «папяровымі глупствамі» кшталту ЕАЭС і Мытнага саюза. Ягоныя праекты — стварэнне беларуска-расійскіх холдынгаў, кшталту «завіслага» праекту «Росбелаўта», які заклікаў аб'яднаць МАЗ і КамАЗ. Па планах, у такія холдынгі павінныя аб'яднацца «абаронныя» МЗКТ і «Пеленг», а таксама флагман беларускай хіміі «Гродна-Азот». Пакуль не вядомыя расійскія партнёры, але тое, што яны знойдуцца — дакладна.

Канешне, афіцыйна гэта называецца «холдынгамі», але ўсе разумеюць — гаворка ідзе пра скупку расійцамі беларускіх прадпрыемстваў. Калі не цалкам, дык кантрольнага пакету акцый.

І дзе-нідзе перадпродажная падрыхтоўка ўжо пачалася. Напрыклад, у межах гэтай «халдэнгізацыі» была агучаная прапанова стварыць сумесны холдынг у галіне вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі. Па плане, аб'яднацца павінны былі «Гомсельмаш» і «Ростсельмаш».

11 ліпеня выдадзеная пастанова Саўміну пра тое, што ААТ «Гомсельмаш», які Дварковіч наведваў на «агледзінах», ператвараецца ў свой, беларускі холдынг. У гэты холдынг увойдуць яшчэ пяць ААТ: «Гомельскі завод ліцця і нармаляў», «Гомельскі завод спецінструменту і тэхналагічнага абсталявання», «Навукова-тэхнічны цэнтр камбайнабудавання», «Светлагорскі машынабудаўнічы завод» і «СП-Буд», якія перададуць холдынгу частку сваіх акцый.

Як растлумачылі ў Мінпраме, з перадачай акцый галаўная кампанія холдынгу атрымае «ўсе рычагі кіравання даччынымі структурамі, будзе праводзіць скаардынаваную інвестыцыйную палітыку, ажыццяўляць мадэрнізацыю вытворчасці і развіваць навукова-канструктарскую дзейнасць».

Насамрэч, зразумела: стварэнне холдынгу «Гомсельмаш» выклікана не жаданнем мець нейкую «скаардынаваную інвестыцыйную палітыку». Гэта робіцца для таго, каб павысіць капіталізацыю «Гомсельмашу», то бок, кошт прадпрыемства. Са стварэннем холдынгу, «Гомсельмаш» значна падаражэў для «скупшчыкаў».

З аднаго боку дзіўна, што пачалі з «Гомсельмашу». Адзін з ягоных асноўных рынкаў — Украіна. Аб'яднанне з «Ростсельмашам» на фоне расійска-ўкраінскай вайны можа насцярожыць пакупнікоў беларускай тэхнікі на Поўдні. Яшчэ больш гэта небяспечна, калі паміж Украінай і Расіяй пачнецца паўнавартасная «гандлёвая вайна», водгукі якой ужо чуваць. Тады вельмі выгадны рынак для беларуска-расійскага прадпрыемства ўвогуле будзе закрыты.

Але можа быць і тое, што ўлада дзейнічае «па прынцыпе МТС». То бок, шляхам утварэння «Гомсельмашаўскага» холдынгу настолькі завысіць кошт прадпрыемства, што ні ў якога «Ростсельмашу» не хопіць грошай, каб яго выкупіць.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Зянон Пазняк

**Палітэмігрант і лідар Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ Зянон Пазняк гэтым разам пераўзышоў самога сябе.**

У Мінску па паштовых скрынях невядомыя распаўсюджваюць улёткі ад імя Зянона Пазняка з заклікам рыхтавацца да партызанскай вайны з Расіяй. То бок, яднацца ў невялікія групы па 2–3 чалавекі, назапашваць зброю, а таксама ехаць добраахвотнікамі на вайну ва Украіну, каб атрымаць неабходны баявы досвед. «Не выключана, што Пуцін палезе і ў Беларусь. Яго трэба сустрэць востра, цвёрда і рашуча», — адзначае Пазняк.

КХП-БНФ пацвердзіла, што гэта — заклік іх лідара, але абвергла датычнасць партыі да распаўсюду такіх матэрыялаў. «Ён працуе не толькі з партыяй, але і з іншымі структурамі, якія могуць распаўсюджваць зварот з яго подпісам. Партыя КХП-БНФ гэтым не займаецца», — адзначыў намеснік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі.

Падаецца, што гэтым разам Зянон Станіслававіч пераблытаў Беларусь з Канзасам, дзе «ствол» можна набыць нават у аптэцы. Якім чынам у Беларусі можна назапашваць зброю і выбухоўку — невядома. Сам заклік Пазняка і следаванне яму можа быць падставай для крымінальнага пераследу па шмат якіх артыкулах айчыннага Крымінальнага кодэкса.

## Вадзім Дзевятоўскі



**Вядомага кідальніка молата, а сёння дэпутата Палаты прадстаўнікоў Вадзіма Дзевятоўскага рэкамендавалі да вылучэння на пасаду старшыні беларускай Федэрацыі хакея.**

Ініцыятарам вылучэння 37-гадовага дэпутата парламента на адказную пасаду выступіў хакейны клуб «Дынама-Мінск».

Сам Дзевятоўскі адзначыў, што расцаніў прапанову «як выклік, які прыняў». Былы спартсмен кажа, што сочыць за спартыўнымі падзеямі ў краіне і развіццём ледзьве не ўсіх відаў спорту. «Казаць, што я поўны дылетант у хакеі, усё ж такі не стаў бы: з самага дзяцінства, калі яшчэ з бацькам хадзіў на матчы «Хіміка» ў родным Наваполацку, хакей заўсёды займаў ганаровае месца ў маім жыцці і сэрцы, таму нацыянальны чэмпіянат ведаю «ад» і «да». Апошнія некалькі год я сталы глядач на матчах мінскага «Дынама» ў КХЛ, наведаў усе выступы нашай зборнай на нядаўнім чэмпіянаце свету і масу гульняў без яе ўдзелу», — заявіў Дзевятоўскі.

Вадзім Дзевятоўскі — кідальнік молата, прызёр Алімпійскіх гульняў, чэмпіянату свету і Еўропы. На Алімпійскіх гульнях 2008 года ў Пекіне заняў 2-е месца, аднак з-за павышанага ўтрымання тэстастэрону, па рашэнні Міжнароднага алімпійскага камітэта, быў пазбаўлены ўзнагароды і падвергнуты пажыццёвай дыскваліфікацыі. У чэрвені 2010 года рашэнне аб дыскваліфікацыі было адменена Спартыўным арбітражным судом у сувязі з парушэннямі, дапушчанымі пры допінг-кантролі, алімпійскі медаль вернуты.

## Барыс Маісееў



**Нягледзячы ні на што, Маісееў радуе сваіх прыхільнікаў. У межах «Славянскага базару» ён даў канцэрт у Віцебску, хаця гэта было для яго вельмі цяжка.**

Майсееў адпрацаваў канцэрт у жывую, і тыя, хто знаходзіўся паблізу, бачылі, што выступ даецца яму з цяжкасцю. Узрост і нядаўна перанесены інсульт давалі аб сабе ведаць. Артыст літаральна абліваўся потам, ды і спяваць яму было вельмі цяжка. Задыхаўся спявак, нават калі проста дзякаваў свайму гледачу. А калі канцэрт быў скончаны, і ён сышоў за кулісы, то тут жа ўпаў на рукі падаспеламу персаналу. Да грымёркі яго неслі ўжо на руках, піша paparazzi.ru.

На шчасце, выклік «хуткай дапамогі» не спатрэбіўся, і праз нейкі час Майсееў ачуняў. І тое, што канцэрт ён усё ж «адпрацаваў» напоўніцу — сапраўдны подзвіг дзеля сваіх прыхільнікаў. Застаецца толькі пажадаць спеваку здароўя, бо мужнасць і самаадданасць, як мы пераканаліся, у яго ў маецца.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Моцная дзяржава і тэарэма Коўза




Сяргей НІКАЛЮК

**У Пасланні–2014 слова «карупцыя» згадваецца 38 разоў. Але карупцыя — гэта індыкатар неэфектыўнасці кіравання.**

Пачну з цытавання самай саліднай беларускай газеты: *«Ровно двадцать лет назад 10 июля 1994 года прошел второй тур первых президентских выборов в Беларуси. Вот цифры Центризбиркома. В списки было включено 7.476.205 избирателей. Проголосовал 5.278.331 человек. 80,34 процента — за молодого политика Александра Лукашенко»*.

А зараз, увага, пытанне! Які працэнт беларусаў, што маюць права голасу, прагаласаваў за маладога палітыка? Той, хто лічыць, быццам 80,34%, памыляецца. Перачытайце два апошнія сказы з прыведзенай цытаты. Яны як бы зліваюцца ў адзін. Вось што значыць прафесіяналізм. Прагаласавала — гэта прыняло ўдзел у галасаванні. Таму завоблачны працэнт падтрымкі маладога палітыка, пра які на працягу 20 гадоў распавядаюць ён сам і дзяржаўная прапаганда, што абслугоўвае яго (за наш кошт, паміж іншым), — гэта працэнт ад яўкі.

Ад спісачнага ж складу выбаршчыкаў, як нескладана пераканацца пры дапамозе простых арыфметычных дзеянняў, паказчык усенароднай любові ў 1994 годзе склаў 56,7%. Ні ў адной з наступных «элегантных перамог» ён вышэй не ўздымалася. Але міф пра ўсенароднаабранага прэзідэнта разам з міфам пра моцную дзяржаву працягваюць дамінаваць у грамадскай свядомасці і зараз.

Прыгледзімся да апошняга міфа больш уважліва. Дапаможа нам у гэтым амерыканскі эканаміст, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Рональд Коўз.

## Эфект «сапсаванага тэлефона»

Тэарэма Коўза: «Незалежна ад таго, як першапачаткова размеркаваныя актывы, у выніку будзе дасягнута аптымальнае іх размеркаванне, калі трансакцыйныя выдаткі роўныя нулю».

А цяпер я паспрабую апусціць гэтую абстракцыю з аблокаў на нашу грэшную зямлю. У першай частцы тэарэмы (да слова «калі») гаворыцца пра ўсёмагутнасць рынку. Якім бы ні было першапачатковае размеркаванне рэсурсаў, «нябачная рука» Адама Сміта здольная ўсё расставіць на свае месцы, і зрабіць гэта з максімальнай эфектыўнасцю.

На бытавым узроўні гэта азначае, што ў рынкавай эканоміцы, незалежна ад намаганняў з нашага боку, усё рана ці позна павінна ўладкавацца больш ці менш добра. Аднак на практыцы падобнае назіраецца вельмі рэдка. Само сабой, як правіла, усё ўладкоўваецца больш ці менш дрэнна.

Уся справа ў трансакцыйных выдатках (ТВ), пад якімі маюцца на ўвазе выдаткі на заключэнне кантрактаў (збор і апрацоўка інфармацыі, правядзенне перамоў, паслугі юрыстаў і да т.п.).

Аналагам ТВ у механіцы з'яўляецца сіла трэння. Калі б не яна, то аўтамабілі, калі б разагналіся да зададзенай хуткасці, маглі б рухацца па гарызантальных дарогах з выключанымі рухавікамі. Ліквідаваць сілу трэння нельга, але яе можна істотна знізіць за кошт выкарыстання падшыпнікаў, змазачных матэрыялаў, надання аўтамабілям абцякальных формаў.

З ТВ тая ж гісторыя: іх можна паменшыць, але немагчыма ліквідаваць цалкам. Патлумачу гэтую ісціну на прыкладзе фірмы. Чаму фірма, якая павялічваецца ў памерах, пачынае губляць эфектыўнасць? Таму што яе «фізічны» рост патрабуе стварэння дадатковых узроўняў кіравання. Колькасць кіраўніцкіх задач пры гэтым нарастае лавінападобна, справіцца з гэтай лавінай менеджарам элементарна не хапае рацыянальнасці. Кантроль слабее. У выніку пачынаюцца нядобрасумленныя (апартуністычныя) паводзіны, што генеруюць дадатковыя выдаткі.

У рамках беларускай эканамічнай мадэлі большая частка нацыянальнай эканомікі сабрана пад дахам УП «Беларусь», што кіруецца з дапамогай уладнай «вертыкалі». Але не варта цешыцца з нагоды яе вертыкальнасці. Шматлікія кіраўніцкія ўзроўні, па якіх зверху ўніз паступаюць каманды, а знізу ўверх — інфармацыя аб іх выкананні, спараджаюць эфект «сапсаванага тэлефона».

Як тут ні працытаваць расійскага эканаміста Аляксандра Аузана: «Прэзідэнт кажа прэм'еру: «Трэба дапамагчы малому бізнэсу. Яго тэрарызуюць, так жыць нельга, яму трэба развіццё». Прэм'ер кажа чальцам ураду: «Там праблемы ў малога бізнэсу, мы павінны іх вырашаць». Міністр унутраных спраў кажа начальніку ўпраўлення: «Там нешта не тое з малым бізнэсам... Нешта з гэтым трэба рабіць». Начальнік упраўлення кажа міліцыянту: «Там гэты малы бізнэс дастаў наогул. Тапчы яго да чортавай мацеры!»

## Плодзяцца як трусы

Ісландскі эканаміст Трайн Эгертсан сфармуляваў «абагульненую тэарэму Коўза»: «Эканамічны рост і развіццё краіны ў асноўным не залежаць ад тыпу існуючага ўрада, калі выдаткі на трансакцыі ў эканамічнай і палітычнай сферах роўныя нулю. Аднак, калі трансакцыйныя выдаткі станоўчыя, то размеркаванне ўлады ўнутры краіны з'яўляецца найважнейшым фактарам яе развіцця». Як быццам з беларускай мадэлі спісана, пагадзіцеся.

Родная дзяржава, не давяраючы рынку, прызначыла сябе галоўным адказным за рашэнне вытворчых задач. Але асноўным «прадуктам» яе намаганняў у гэтым напрамку сталі ТВ. Яны плодзяцца як трусы.

Варта аддаць дзяржаве належнае, праблему яна ўсвядоміла. У Пасланні–2014 слова «карупцыя» згадваецца 38 разоў. Але карупцыя — гэта індыкатар неэфектыўнасці кіравання. Таму ў шчырасці адзінага палітыка (АП) *«выжигать эту нечисть каленым железом»* сумнявацца не даводзіцца. Для яго барацьба з карупцыяй — гэта адчайная спроба аднаўлення кіравальнасці ўладнай «вертыкалі».

Да якіх палітычных наступстваў можа прывесці *«эта нечисть»,* паказаў прыклад Украіны: *«Я уже говорил, что основа всех украинских и прочих событий, в том числе «арабской весны», состоит в том, что в результате страшной коррупции и поборов до нищеты довели людей и положили экономику. Вот в чем причина всех последних подобных мероприятий. И дело здесь не в американцах»*.

Страшная карупцыя і паборы — гэта прамыя ТВ для бізнэсу. Ніякіх вытворчасцей, заснаваных на складаных тэхналогіях, у карупцыйным асяроддзі паўстаць не можа, што і дэманструюць эканомікі славянскага трыкутніка (Беларусь—Расія—Украіна). Калійныя ўгнаенні, нафта і нафтапрадукты, газ, металы — вось той няхітры пералік тавараў, які пастаўляецца трыма брацкімі народамі на міжнародныя рынкі.

Карупцыя — рэакцыя на прымітыўнасць («ручны» характар) кіравання, на неэфектыўнасць дзяржавы. А ці можа быць эфектыўнай дзяржава, у якой заканадаўчыя і выканаўчыя функцыі спалучаюцца ў адной кропцы? Асабіста мне пазітыўныя прыклады пры падобным уладным сімбіёзе невядомыя.

*«Зло коррупции,* — на думку АП, — *почти всегда стоит рядом с разгильдяйством, наплевательским отношением к своему делу. И здесь у нас, прямо скажу, плохо дело обстоит с ответственностью руководителей»*. Ісціну кажа. Адна справа — убудаваць чалавека ва ўладную «вертыкаль», і зусім іншая — прымусіць яго жыць агульнымі інтарэсамі ў сістэме, у якой пад агульнымі інтарэсамі маюцца на ўвазе асабістыя інтарэсы ўладальніка УП «Беларусь».

Як тут ні пагадзіцца з акадэмікам Юрыем Піваваравым: «Карупцыя — гэта асяроддзе, у якім разгортвае сябе ў прасторы і часе дзяржава». Зразумела, што гаворка ідзе пра дзяржаву, якая функцыянуе на аснове ўладнай «вертыкалі».

## Толькі адзін фактар з пяці

Удасканаленне сістэмы кіравання эканомікай — адзін з трох базавых напрамкаў, на якім *«в наших условиях необходимо сосредоточить внимание»*. Адпаведны раздзел у Пасланні–2014 пачынаецца з прызнання: *«Сегодня очевидно, что действующая директивная система государственного планирования с массой показателей себя исчерпала»*.

Словам, усё як звычайна. Замахнуліся на рубель (на ўдасканаленне сістэмы кіравання), а ўдарылі на пятак (абмежаваліся пераглядам сістэмы паказчыкаў). Цытую: *«То есть надо нашу нормальную систему, добавив сюда главное требование по деньгам, эту систему взять и перевернуть, с головы на ноги поставить. Вот и все. Мудрить ничего не надо»*.

У рамках Канстытуцыі АП мае права высоўваць любыя патрабаванні, чым ён рэгулярна і займаецца. Практычна кожны прэс-рэліз, прысвечаны яго рабочым паездкам па краіне, пачынаецца са слоў «прэзідэнт запатрабаваў...». Спіс патрабаванняў шырокі, і ён увесь час папаўняецца. АП патрабуе жалезнай дысцыпліны пры нарыхтоўцы кармоў, запаўнення ў сціслыя тэрміны свінакомплексаў, недапушчэння фактаў перасаджвання чыноўнікаў і кіраўнікоў, якія правалілі сваю працу і г.д. Аднак у спісе патрабаванняў па-за канкурэнцыяй — патрабаванне забяспечыць якасны рост эканомікі і павышэнне дабрабыту грамадзян.

Вікіпедыя падказвае нам, што сучасная навука ведае пяць фактараў, якія ўплываюць на эканамічны рост:

1. Колькасць і якасць працоўных рэсурсаў.
2. Эфектыўнасць асноўнага капіталу.
3. Колькасць і якасць прыродных рэсурсаў.
4. Эфектыўнасць кіравання.
5. Эфектыўнасць тэхналогій.

Этап у жыцці беларускай мадэлі, калі эканамічны рост планавалася забяспечыць за кошт укаранення эфектыўных тэхналогій, мы праехалі ў мінулым годзе. Чым ён скончыўся — добра вядома. Але хто старое прыгадае...

Асаблівых надзей з нагоды трох першых фактараў са спісу АП не мае. Ён усведамляе, што ад колькасці і якасці яго асабістых патрабаванняў колькасць і якасць працоўных і прыродных рэсурсаў не зменіцца. Падобная праблема і з эфектыўнасцю асноўнага капіталу. Застаецца эфектыўнасць кіравання. За яе ён і ўзяўся.

* * *

Ад долі ТВ у валавым прадукце наўпрост залежыць узровень канкурэнтаздольнасці нацыянальных эканомік. Таму іх зніжэнне ўваходзіць у лік першарадных задач сучаснай дзяржавы, але рашэнне задач падобнага ўзроўню па плячы толькі моцным дзяржавам, палітычная эліта якіх не баіцца канкурэнцыі. Я б не наважыўся аднесці сучасную беларускую дзяржаву да шэрагу такіх краін. На працягу двух дзесяцігоддзяў наша дзяржава паслядоўна праполвае палітычную «паляну», г.зн. вырашае процілеглую задачу. У чым і дасягнула пэўнага поспеху.

# На чым грунтуецца ўлада Лукашэнкі

Генадзь КЕСНЕР

**Дваццаць гадоў таму, 20 ліпеня 1994 года, адбылася інаўгурацыя першага прэзідэнта Беларусі, якім стаў дырэктар саўгаса «Гарадзец», дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання 39-гадовы Аляксандр Лукашэнка.**

Мала хто мог на той час паверыць, што ён затрымаецца пры ўладзе на такі вялікі час, прычым канца кіраванню гэтага чалавека пакуль што нават не праглядаецца. Якім чынам удаецца Лукашэнку так доўга заставацца на вяршыні ўлады? «Новы Час» звярнуўся з гэтым пытаннем да вядомых у Беларусі асобаў і экспертаў.

***Міхаіл Пастухоў, доктар юрыдычных навук, прафесар, суддзя першага складу Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь:***



— Мне падаецца, што сістэма ўлады Лукашэнкі працягвае трымацца перш за ўсё на страху, які гэтая ўлада імкнецца распаўсюдзіць на ўсё грамадства і паказаць людзям, што любое незадавальненне будзе жорстка пакаранае. А таксама гэтая сістэма грунтуецца на псіхалогіі прызвычайвання, калі, магчыма, з прычыны свайго беларускага менталітэту людзі мяркуюць, што, відаць, так і мае быць. Маўляў, можа, будзе горай, калі прыйдзе нехта іншы.

Але рана ці позна любая ўлада мяняецца. І ў большасці грамадзян ужо прыйшло ўсведамленне, асэнсаванне, што перамены неабходныя, што гэтая сістэма ўлады вычарпала сябе, яна не дае падставаў для дынамічнага развіцця. Што патрэбны новыя людзі, новая каманда, якая магла б прасунуць Беларусь па эвалюцыйным шляху развіцця.

***Аляксандр Класкоўскі, палітычны аналітык:***

— Насамрэч, сістэма Лукашэнкі аказалася вельмі моцнай, і больш моцнай за тое, як прарочылі крытыкі, што, маўляў, ён не пратрымаецца ва ўладзе больш за два гады. Тут ёсць некалькі складнікаў.



У прыватнасці, гэта і папулізм Лукашэнкі, і даволі невысокі ўзровень запытаў масавага беларускага электарату. Адносны дабрабыт, даволі сціплы па еўрапейскіх стандартах, тым не менш, задавальняе большасць беларусаў. Пры тым, што застаюцца пэўныя сацыяльныя гарантыі, усеагульная працоўная занятасць. То бок, гэта такі рымейк савецкага жыцця, калі не трэба шмат думаць пра ўласную будучыню ды ўпірацца рогам.

Але самы галоўны чыннік — гэта велізарная эканамічная падтрымка Масквы. І разам з тым гэта велізарная небяспека не толькі для беларускага рэжыму, але і для будучыні самой Беларусі. Беларуская мадэль вымагае ўсё большага падсілкавання, расійская дапамога робіцца для яе наркотыкам, дозы павялічваюцца, і гэта вядзе да ўсё большай залежнасці ад Масквы, да пагрозы незалежнасці Беларусі, да тармажэння развіцця як эканамічнага, так і грамадскага. Па вялікім рахунку, гэта шлях у тупік. Але такім чынам Лукашэнка забяспечыў сабе даволі працяглы час кіравання і, верагодна, яшчэ пэўны час па інерцыі ён зможа ў рамках гэтай мадэлі ўтрымліваць сваю ўладу.

Пры ўдалым спалучэнні абставінаў, Лукашэнка можа кіраваць яшчэ доўга. Яму ўвесь час неверагодна шчасціла. Зараз, напрыклад, калі рэсурсы ў яго невялікія, рэйтынгу яму дадаў украінскі крызіс. Беларусы схапіліся за гэтую стабільнасць, ім ужо не патрэбна абяцаная тысяча долараў заробку да 2015 года. Ужо толькі за адну стабільнасць, за тое, што не льецца кроў у Беларусі, многія гатовы галасаваць за Лукашэнку.

У той жа час, паколькі Беларусь — гэта малая адкрытая эканоміка, сур'ёзныя эканамічныя страсенні ў Расіі могуць абваліць беларускую мадэль. Ці чарговы скандал з Масквою, калі тая перакрые кранік. Але Лукашэнка будзе рабіць усё магчымае, каб, пакуль ёсць магчымасць, прыстаканьвацца да расійскіх рэсурсаў і выязджаць за кошт інтэграцыйнай рыторыкі. Гэта шлях доўгатэрміновай дэградацыі беларускага грамадства, але тут галоўнае — любым чынам утрымаць уладу. У тым ліку і за кошт цывілізаваных еўрапейскіх перспектываў краіны.

***Валеры Карбалевіч, палітолаг, эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія»:***



— У Лукашэнкі некалькі падпорак. Па-першае, гэта падтрымка з боку Расіі. Падтрымка фінансавая, эканамічная, палітычная, дыпламатычная, ваенная. Без такой дапамогі існая мадэль так доўга ўтрымацца не змагла б.

Па-другое, гэта падтрымка з боку грамадства. Сацыялагічныя апытанні паказваюць, што для недзе каля паловы насельніцтва існая сацыяльная мадэль дастаткова камфортная, прычым нават псіхалагічна і эканамічна. Той узровень жыцця, які існуе, іх цалкам задавальняе. А незадаволеныя, як правіла, проста з'язджалі за мяжу.

Па-трэцяе, гэта аўтарытарны рэжым. Рэпрэсіі ў дачыненні да ўсіх незадаволеных, нейтралізацыя, выдаленне, ліквідацыя ў розных варыянтах усялякай альтэрнатывы — усё гэта таксама даволі эфектыўна спрацавала.

І, нарэшце, асоба самога Аляксандра Лукашэнкі. Ягонае вострае палітычнае адчуванне, ягоная харызма.

***Станіслаў Шушкевіч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі, старшыня Вярхоўнага Савета XII склікання:***



— Улада Лукашэнкі грунтуецца на дыктатарскай аснове. Цягам першых двух гадоў была знішчана ўсялякая дэмакратыя. Спачатку былі манапалізаваны мас-медыя, потым знішчана ці адзяржаўлена мясцовае самакіраванне і гэтак далей. Засталася сістэма «я начальнік, а ты — дурань», якая дзейнічае і сёння.

Працягласць існавання цяперашняй улады і яе кіраўніка залежыць ад таго, як хутка адбудзецца «палацавы пераварот», ці ад таго, як хутка Лукашэнка абрыдне Пуціну, калі «не ўшурупіць», як яшчэ можна выявіць сваю адданасць.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Эканоміка здраднікаў

**На ўрачыстым сходзе з нагоды афіцыйнага Дня Незалежнасці Лукашэнка нечакана загаварыў пра падаткі. Пра тое, што ўсе іх павінны плаціць цалкам і ў належным памеры. Той, хто спрабуе ўтаіць свае набыткі ад мытараў, робіць замах на своеасаблівую маральную здраду Радзіме.**



Падаткі ў нас плацяць усе, хто мае афіцыйную працу і заробкі. У іх аўтаматычна забіраецца 12% налічанага заробка. Яшчэ траціна ад заработнай платы таксама аўтаматычна праз бухгалтэрыю пералічваецца ў сацыяльны фонд. Сярод гэтых людзей «маральных здраднікаў» няма, бо іх не можа быць. У гэтым пытанні ўстаноўлена «жэстачайшая» дысцыпліна. Як у салдацкай казарме. Таму кожны баец марыць схадзіць у самаволку, паглядзець на дзяўчат, а калі пашэнціць, за якую і «патрымацца». Як салдат думае пра жанчын, так амаль што кожны з беларусаў марыць аб падпрацоўцы. І шукае магчымасць нешта зарабіць, гатовы ўзяцца амаль за любую работу, калі яна абяцае добры заробак.




Калі дзяржава ў выглядзе падаткаў забірае 45% ад зробленага, то зразумела, што грамадзяне намагаюцца схаваць свае «прыработкі». Інакш да адной падпрацоўкі спатрэбіцца шукаць і другую, а ў сутках толькі 24 гадзіны.

Такая эканоміка, канешне, мае відавочныя сацыяльныя ды маральныя хібы, але, як гэта не дзіўна, мае і эканамічны падмурак. Калі, прыкладам, падвысіць заробкі так, каб «шабашнікі» адмовіліся ад прыпрацовак, то спыніцца «прыватная эканоміка насельніцтва». Найперш, на вёсцы, у маленькіх гарадскіх паселішчах, дзе амаль усё будаўніцтва, побытавы і вытворчы сервіс увогуле ажыццяўляецца «беспрацоўнымі» беларусамі. Калі гэтых «беспрацоўных» ліквідаваць, нацкаваўшы на іх мытараў, то ад вёскі праз год-два і следу не застанецца. Ні на мясцовасці, ні на адміністратыўнай мапе.

Дзяржаўныя бюджэты нармальных краін, канешне, фармуюцца ў вялікай ступені падаткамі насельніцтва. Але насельніцтва заможнага, якое мае не толькі заробкі, але і нерухомасць, і непрацоўныя набыткі. А што ў нас? Заробкі? Па дадзеных Белстата, намінальная налічаная зарплата ў студзені-маі 2014 года склала 5,68 мільёна рублёў, у тым ліку ў маі — 6,06 мільёна рублёў.

Але параўнаем нашы заробкі з нашымі цэнамі. Рэальны заробак у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павысіўся на 3,6%, а інфляцыя (то бок рост цэнаў) — 20% за год. Прадаўцы, бывае, што і праз гадзіну пасля пачатку працы не ведаюць, колькі каштуе тая ці іншая рэч. Не паспяваюць з калькуляцыяй. Гэта значыць, што падвышаюцца ўскосныя падаткі, якія дзяржава выбівае з усіх сваіх жыхароў — ад немаўлят да нябожчыкаў. Першыя растуць, але і апошнія разлічваюцца з дзяржаўнай камунальнай службай.

Той жа Белстат паведамляе, што рознічны гандаль, пры росце заробкаў у 3,6%, у параўнанні з мінулагоднім перыядам, прадаў харчовых тавараў больш на 15,6%. То бок, людзі купілі больш ежы, чым афіцыйна зарабілі на яе. Гэта не аўто, не завушніцы з дыяментамі, грошы на якіх здымаюцца з банкаўскіх рахункаў ці выцягваюцца з панчох, гэта звычайны хлеб надзённы, які купляецца на тое, што прыносіць у дом гаспадар, у тым ліку і з «халтуры». Тое, што ён схаваў ад падаткаў. І калі б не «здрадзіў Радзіме маральна», то дзеці, магчыма, леглі б спаць галоднымі.

Тым часам, па стане на 1 ліпеня ў 72 арганізацыях узнікла запазычанасць па выплаце заробку ў суме 48 мільярдаў рублёў. Невялікая, усяго 0,3% ад фонду заработнай платы за май, але кожны з 12,1 тысячы работнікаў у сярэднім не атрымаў 4 мільёны зробленых грошай. І не заплаціў 12% падаходнага падатку. Але галоўнае ў тым, што гэты змушаны здраднік з хатнімі перабіваецца з хлеба на зацірку. Добра, што паднялася лебяда, крапіва і шчаўе.

# Уладзімір Някляеў:
# Творчасць — практыкаванні ў свабодзе

**Заканчэнне. Пачатак у № 26, 27**

**Не так даўно ў выдавецтве «Лімарыус» выйшла аўтабіяграфічная кніга Уладзіміра Някляева «Знакі прыпынку». Пра кнігу і пра жыццё, пра паэзію і палітыку пагутарыў з Уладзімірам Някляевым журналіст і літаратуразнаўца Сяргей Шапран.**


Уладзімір Някляеў

***— Колькі ведаю вас, дык усё здзіўляюся таму, як вы лёгка даруеце тое, што дараваць часам ці немагчыма, ці даволі складана. Да прыкладу, вядома, што вашу першую кнігу «зарэзаў» Сцяпан Гаўрусёў, калі па загадзе напісаў на яе адмоўную закрытую выдавецкую рэцэнзію. А між тым у адным з вашых «значкоў» чытаю: «Сцяпан Гаўрусёў, паэт, якога неяк несправядліва хутка забываюць...» І хоць гісторыя з першай вашай кнігай адносіцца да самага пачатку 1970-х, тым не менш. Ці лёгка даецца вам гэтае дараванне?***

— Крыўда, у адрозненні ад зайздрасці, рэч непрадуктыўная.

Праз што любы чалавек крыўдуе на нешта, на некага?.. Найперш праз тое, што яму здаецца, нібы з ім абыходзяцца несправядліва. Не так, як ён таго заслугоўвае. І я навучыўся казаць сабе самому: ну, добра, у дадзеным выпадку ў адносінах да цябе — відавочная несправядлівасць. Але ж былі выпадкі, калі ты некага крыўдзіў несправядліва, ці калі цябе справядліва крыўдзілі, а ты рабіў выгляд, нібы пакрыўдзілі несправядліва. І калі скласці ўсё ў адно, дык ці выглядае яно так, што ў кожны момант ты справядлівы, а нехта іншы ў кожны момант — не?..

Гэта ў мяне ад маці — у яе характары было ўсёдараванне, часцяком нават залішняе. І розніца, прычым істотная, паміж мной і маці палягае ў тым, што ёй дараванне давалася лёгка. Памоліцца раз-другі-трэці — і па вачах відно, як яе адпускае, як сыходзіць крыўда, нібы яе й не было... У мяне так лёгка крыўда не праходзіць. Іншая справа, што не выплёскваецца вонкава. Але гэта дорага мне каштуе.

***— У адным з Вашых «знакаў» напісана:*** *«Пасля ўсяго, што перажылося ў апошні год, ніяк не чакаў, каб хто-небудзь чым-небудзь мяне расчуліў. Але такое сталася — і зрабіў гэта Быкаў, самы суворы чалавек нашай літаратуры. У кватэрцы ў Хельсінкі, дзе ён жыў паўтара гады і дзе жыць цяпер мне, я знайшоў на пісьмовым стале гэткі прывітальны ліст, што шчымянула недзе там, дзе сэрца...*

*А дома ж ледзьве не кулаком гразіў: я табе дам!.. Любімы пісьменнік прэзідэнта!..*

*Вось і разбярыся.*

*У кожным дні мы розныя, у кожным моманце — іншыя.*

*Там, дзе мы былі, — мы ў натоўпе. «Раскрыжуй яго!..»*

*Там, дзе мы апынуліся, — мы самі ў сабе...*

*Ён пакінуў мне свой камп'ютар. Старэнькі, запылены. Я стаў яго чысціць і знайшоў прыклееную знізу пад маніторам паперчынку. На ёй напісана: «Есць першая старонка. З Богам!..»*

***У звязку з гэтым: што, Уладзімір Пракопавіч, можа сёння расчуліць вас?***

— Многае. Сёння звычайны чалавечы жэст, скіраваны на падтрымку, на дапамогу, на дабрыню, каштуе значна даражэй, чым гэта было ў мінулым. Яшчэ зусім нядаўнім...

Гэта можа быць калі не запіска Васіля Быкава, дык начны званок Ігара Шклярэўскага, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна... Ці ранішні званок Леаніда Дранько-Майсюка, майго маладзейшага сябра, якога спакушалі, змушалі мяне прадаць, а ён не прадаў... А ёсць яшчэ сувязь паміж людзьмі па невядомых нам каналах, калі чалавек, не ведаючы, што з табой сталася, раптам пытае: «Ну, што там у цябе? Чым дапамагчы?» Неяк жа ён здагадваецца, што табе ў гэты момант патрэбная дапамога. Па-мойму, гэта і ёсць адна з выяваў — і далёка не апошняя — сяброўства.

Адзін з маіх даўніх сяброў, Яўген Еўтушэнка, напісаў: «Я мир не делю на талантливых или бездарных, а на благодарных и неблагодарных». Я мог бы напісаць тое самае... (Смяецца). Але дзе ж за Еўтушэнкам, як і за Барадуліным, угонішся.

Я навучыўся... вось сказаў «навучыўся», але ў сапраўднасці вучуся і вучуся цаніць простыя, чалавечаўдзячныя рухі, жэсты, учынкі — яны вельмі кранальныя. Усё больш адчувальныя з узростам — і гэта не сантыментальнасць, не. Хоць і сантыментальнасць — не горшае, што можа быць у чалавеку. Калі я ацэньваю некаторыя свае ўчынкі, дзеянні ў маладосці, якія здаваліся мне выявай слабасці, — ну, скажам, той жа выпадак з кнігай...

***— Вы кажаце пра тую сваю кнігу выбраных твораў, якую «пахавалі» ў Варшаве?***

— Не, я пра тую кнігу, якая праз адмоўную рэцэнзію ў свой час не выйшла... І як ты мяркуеш: што я думаў пра аўтара рэцэнзіі? І што хацеў з ім зрабіць? І, дарэчы, ледзь не зрабіў, калі сустрэў яго ў Доме творчасці ў Каралішчавічах. У лесе. Але спыніў сябе: не! Інакш трэба сваю сілу паказаць... І калі выйшла тая кніга, пасля яшчэ адна, ён у тым жа лесе напамяць чытаў мае вершы і перапрашаўся: «Выбачай, мне сказалі напісаць...»

Што ж да кнігі «пахаванай», закапанай у Варшаве, дык гэта эмацыянальны зрыў быў, амаль адчай. Гэта не самая лепшая гісторыя, і запіс пра яе — адзін са «знакаў», дзе якраз выяўляецца слабасць. Я, між іншым, вагаўся: ці пакінуць яго ў «Знаках прыпынку»?.. Але ўрэшце падумаў: быў слабы ў гэты момант? Быў, дык што ж цяпер...

Уяўленні пра слабасць і сілу з часам мяняюцца. Раней, калі не хапала рашучасці даць у пысу, я сябе дакараў: мазгляў, што ж ты... А цяпер кажу сабе: ну, што ж, малайчына, што стрымаўся, неператварыў дробязь у праблему.

Большасць праблем людзі ствараюць менавіта з дробязі, праз што ўся гісторыя адносін выглядае дробязнай, нікчэмнай, хоць насамрэч такой не была... Нашы ўяўленні адзін пра аднаго найчасцей памылковыя, але мы ўчэпіста за іх трымаемся. Напісалі нешта на шыльдачцы, павесілі яе на чалавека — і нібы гэтакі, як напісалі, чалавек і ёсць. А насамрэч ён зусім іншы.

Я перапісаў «шыльдачку». Сцяпан Гаўрусёў — не рэцэнзент, які сказаў нешта не тое пра маю першую кнігу, а паэт. Адчуваеш розніцу?..

***— У «знаку» з нагоды свайго 55-годдзя вы напісалі:*** «Дзякую за Анёла, які ахоўваў мяне і ратаваў, ахоўвае і ратуе...» Між тым, ёсць у вас верш, пазней напісаны ў турме:

*Не ўсё дарэмна, што дарэмна...*
*Не ўсё брыдота, што ў брыдзе...*
*Па ветры,*
*сушы,*
*па вадзе,*
*Магчыма, нехта патаемна*
*Мяне да нечага вядзе.*

*Магчыма, шлях мой да астрога*
*Наўмысна скручаны ў клубок*
*За ніцую ніць,*
*За крокам крок...*

*Хто ж мой вядок? Ён служка Бога,*
*Ці служка д'ябла — мой вядок?*

***Сёння, праз гады, вы можаце сказаць з упэўненасцю: хто ж ваш вядок?***

— Ну-у... (Раздумвае.) Чалавека ў кожны момант вядзе не адно і тое і не адзін і той жа. У нейкі момант гэта служка Бога, у іншы — служка д'ябла. Бог і д'ябал жывуць у чалавеку адначасова, а не так, што нехта высяліўся, а нехта ўсяліўся.

Але ты, як я разумею, пытаеш не пра жыццё Бога і д'ябла ў адной кватэры, а пра тое, хто з іх спакусіў мяне палітыкай. Так?

***— Так.***

— Калі я адкажу, што д'ябал, ты будзеш задаволены?

***— Цалкам.***

— У такім разе, калі ласка: д'ябал спакусіў... І ведаў, чым спакушае. Цікавасць да паэзіі сёння, так скажам, цікава. А я звык да іншага. У гэтай звычцы — вялізныя залы, стадыёны, сотні, тысячы людзей, перад якімі стаіш і глядзіш ім у вочы...

***— Вам патрэбная аўдыторыя?***

— Мне патрэбная энергетыка. Я не ўмею пісаць без энергетычных затрат, у паэмах спустошваю сябе дарэшты. І трэба неяк папаўняць запас энергіі. Зараз, напрыклад, жыву тым, што ўзяў на Майдане, дзе стаяў перад мільёнам людзей, якія, аб'яднаныя духам свабоды, выпраменьвалі неверагодную энергію! Яна кацілася такой хваляй, што я змушаны быў нахіляцца ў яе, як у сустрэчны вецер, каб выстаяць на сцэне... Зрэшты, хто гэтага не адчуваў, таму без толку пра гэта распавядаць. Чуеш у адказ: «Стадыён — не паэзія». А я і не кажу, што паэзія. Я кажу: энергія. Тое, з чаго паэзія ствараецца. Без чаго яна — падробка і падманка.

І ўсё ж сцвярджаць, што спакусіў мяне палітыкай д'ябал, — гэта нагаворваць на д'ябла. А нагаворваць і без яго ёсць на каго... Я апынуўся ў палітыцы праз пагібельны стан беларускасці, праз катастрофу нацыянальнай мовы і культуры. Прыйшоў у палітыку, шукаючы пляцоўку, на якой можна супрацьстаяць нашэсцю на ўсё беларускае ў Беларусі. Не чакаў, праўда, што на пляцоўцы гэтай будзе так няўтульна, але што ж: сам выбіраў.

***— Яшчэ адзін «знак» напрыканцы. «З усяго, што было, згадваюцца найчасцей крэўскія пагоркі, па якіх іду, маленькі, і нанізваю на сцяблінку мятліцы сонейкі суніц». Ведаеце, пра што я пашкадаваў, калі дачытваў кнігу?.. Пра тое, што малавата ўсё ж у ёй «знакаў» пра ваша асабістае, якое многім вельмі цікавае, жыццё. Больш пра літаратуру... Не хочаце выдаваць сакрэты асабістага жыцця?***

— Зараз я выдам адзін сакрэт... Літаратура і ёсць маё асабістае жыццё.

***— У такім разе можна завяршыць нашу гутарку «знакам» пра творчасць: «Творчасць — гэта больш чым жывапіс, музыка, паэзія. Яна — практыкаванні ў свабодзе». Гэта так?***

— Так. Калі б яно было інакш, я б гэтым не займаўся.


Васіль Быкаў і Уладзімір Някляеў

TV

## 21 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55 Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**11.00** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія).
**12.10** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**13.15** Камедыйная меладрама «Любоўны пераплёт» (ЗША).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Стацкі саветнік» (Расія). 1-я серыя.
**16.30** Нашы.
**16.45** Меладрама «Дзякуй за каханне» (Расія).
**19.20** Арэна.
**19.40, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.15** Дзень спорту.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць выдатна!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.55** «Пад прыкрыццём». Тэлесерыял.
**23.55** «Кітайскі сервіз». Мастацкі фільм.
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінщчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Чыстая праца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Ежа багоў».
**15.25** «Мае цудоўныя..».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Мсціўца». ЗША, 2006 г.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Фаталісты». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія).
**10.00** Тэлебарометр.
**10.30** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў» (Канада).
**11.30** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). 1-я серыя.
**12.35** Фільм-казка «Прынц за сям'ю морамі» (ГДР).
**14.00** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня» Кулінарны майстар-клас (Расія).
**14.35** Гістарычны баявік «Тры каралеўствы. Вяртанне дракона» (Кітай-Паўднёвая Карэя-Ганконг).
**16.30** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**17.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія).
**18.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.50** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.45** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**22.30** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль Вавілон» («Вялікабрытанія).
**23.35** Хачу ў тэлевізар!
**23.40** Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). 1-я серыя.
**00.30** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**01.10** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў» (Канада).

### Беларусь 3

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Сталінскі ампір.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** «Жыццё - праклятая роля». Алег Даль. Дакументальны фільм.
**08.55** «Не можа быць!». Мастацкі фільм паводле апавяданняў Міхаіла Зошчанкі.
**10.25** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 2 серыя.
**11.20** «Партызаны супраць Вермахта». 8-я серыя. Частка 1-я. Дакументальны фільм.
**11.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Мікалая Рыжанкова.
**12.15** «Размаўляем па-беларуску».
**12.20** Сусветнае кіно. «Каханне, што збівае з ног».
**13.55** «Калейдаскоп».
**14.05** «Сімвалы эпохі». Сталінскі ампір.
**14.20** «Размаўляем па-беларуску».
**14.25** Серыял. «Мегрэ». 25-я - 30-я серыі.
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.00** «Сімвалы эпохі». Сталінскі ампір.
**19.15** «Размаўляем па-беларуску».
**19.20** Дзіцячы фільм. «Востраў скарбаў». Мастацкі фільм па матывах аднайменнага рамана Роберта Сцівенсана.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 3 серыя.
**22.05** «Партызаны супраць Вермахта». 8-я серыя. Частка 1-я. Дакументальны фільм.
**22.35** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Мікалая Рыжанкова.
**23.55** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** «Пракурорская праверка».
**15.15** «Ямо дома!».
**15.45** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.35** «Масква. Тры вакзалы». Серыял.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**20.00** «Дэльта». Тэлесерыял.
**21.45** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.55** Серыял «Глушэц. Працяг».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Размовы эксперта.
**07.15** Свабода без гальштукаў!
**07.35** «Вацлаў Іваноўскі: «Загляне сонца..», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**07.55** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): Лёс ваенных гарадкоў.
**08.25** Чаму дэмакратыя? «У пошуках рэвалюцыі».
**09.20** «Халасцякавічы», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**10.35** «Кантрабандысты», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**11.05** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**17.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.25** «Шахматная вайна», дак. фільм, 2002 г., Францыя–Бельгія.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Адкуль пайшлі найменні гарадоў.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Размовы эксперта.
**19.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Антоні Тызенгаўз.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Песня-прызнанне Бобі Лонгу», драма, 2004 г., ЗША.
**23.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.20** Аб'ектыў.

## 22 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы».
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.10** Меладраматычны серыял «Сэрца Мары» (Расія). Заключныя серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Стацкі саветнік». 2-я серыя.
**16.35** Гістарычная драма «Вольф Месінг: бачыў скрозь час» (Расія). 1-я серыя.
**17.40** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.30** Вечар цяжкага дня.
**00.15** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць выдатна!».
**10.25** Кантрольная закупка.
**11.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.55** «Пад прыкрыццём». Тэлесерыял.
**23.55** «Шалёная баба». Мастацкі фільм.
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінщчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Дзіўная справа».
**10.00** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Помста». Данія - Швецыя, 2010 г.
**16.00** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Смяротная зброя - 2». ЗША, 1989 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Фаталісты». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**10.00** Беларуская кухня.
**10.45** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.40** Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). 2-я серыя.
**12.35** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**13.40** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія) серыі.
**14.40** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**15.45** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль Вавілон» («Вялікабрытанія).
**16.55** Вышэй за дах.
**17.30** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**18.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.55** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.50** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**22.35** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль Вавілон» («Вялікабрытанія).
**23.40** Хачу ў тэлевізар!
**23.45** Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). 2-я серыя.
**00.35** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### Беларусь 3

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Чорная ікра.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Востраў скарбаў». Мастацкі фільм па матывах аднайменнага рамана Роберта Сцівенсана.
**09.35** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 3 серыя.
**10.30** «Партызаны супраць Вермахта». 8-я серыя. Частка 2-я, заключная. Дакументальны фільм.
**10.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Беларусі Паўла Пекура.
**11.20** «Размаўляем па-беларуску».
**11.30** «Прыватнае жыццё Пятра Вінаградава». Мастацкі фільм.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Сімвалы эпохі». Чорная ікра.
**13.15** «Жывыя сведкі ледніко́ў». Дак. фільм пра рэдкія віды птушак беларускага Паазер'я.
**13.50** «Размаўляем па-беларуску».
**14.00** Серыял. «Мегрэ». 31-я - 36-я серыі.
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.10** «Сімвалы эпохі». Чорная ікра.
**19.25** «Размаўляем па-беларуску».
**19.30** Дзіцячы фільм. «Уключыце паўночнае ззянне».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Сышчык Пуцілін». Мастацкі фільм. 4-я серыя.
**22.05** «Партызаны супраць Вермахта». 8-я серыя. Частка 2-я, заключная. Дакументальны фільм.
**22.35** «Варатар». Мастацкі фільм.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста Беларусі Паўла Пекура.
**00.15** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.50** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** Серыял «Пракурорская праверка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.35** «Масква. Тры вакзалы». Серыял.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**20.00** «Дэльта». Тэлесерыял.
**21.45** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.50** Серыял «Глушэц. Працяг».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.50** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**09.05** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Антоні Тызенгаўз.
**09.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 7 серыя.
**10.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**10.35** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**11.25** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 7 серыя.
**17.00** Басанож па свеце (спазнавачая праграма).
**17.25** Беларусы ў Польшчы.
**17.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 7 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): «Хачу запытацца!» (агляд пошты).
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Ціўкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.30** «Ілля Сін – граем Сіна», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Марцін Пачобут-Адляніцкі.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**22.30** «Лонданцы», серыял: 7 серыя.
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.15** Аб'ектыў.

TV

## 23 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія).
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.10** Прыгодніцкі серыял «Востраў непатрэбных людзей» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Стацкі саветнік» (Расія). 3. Серыя.
**16.35** Гістарычная драма «Вольф Месінг: бачыў скрозь час» (Расія). 2-я серыя.
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**19.20** Спецыяльны рэпартаж.
**19.40, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### АНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.55** «Пад прыкрыццём». Тэлесерыял.
**23.55** «У тыле ворага: Калумбія». Маст. фільм.
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.00** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Смяротная зброя - 2». ЗША, 1989 г.
**16.00** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «PRADA і пачуцці». ЗША - Мексіка, 201 1г.
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.15** «Фаталісты». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.45** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.40** Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). 3. Серыя.
**12.40** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**13.40** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**14.50** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**15.50** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**17.00** Рэпарцёр.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**18.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.50** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.45** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**22.35** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.40** Хачу ў тэлевізар!
**23.45** Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). 3. Серыя.
**00.35** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### Беларусь 3

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Славянская прыгажуня.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Уключыце паўночнае ззянне».
**09.30** «Сычшык Пуцілін». Мастацкі фільм. 4-я серыя.
**10.20** «Сімвал Перамогі». Брэсцкая крэпасць.
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Пятра Макаля.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** «Варатар». Мастацкі фільм.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.45** «Сімвалы эпохі». Славянская прыгажуня.
**13.00** «Александрыя збірае сяброў». Канцэрт «Грай, гармонік».
**13.55** «Размаўляем па-беларуску».
**14.00** «Беларусь на крыжы вякоў». Фільм 1-ы. Дакументальны фільм.
**14.55** «Падарожжа са смакам». Турцыя.
**15.30** «Гучанне жыцця». Дак. фільм пра народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна.
**16.20** Серыял. «Праклятыя ўтульны дом». 7-я серыя.
**17.05** «Размаўляем па-беларуску».
**17.10** «Беларускі космас». Дакументальны фільм.
**17.45** «Д'ябал». Льва Талстога». Дак. фільм.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.20** «Сімвалы эпохі». Славянская прыгажуня.
**18.35** «Казка пра цара Салтана». Мультфільм.
**19.30** «Размаўляем па-беларуску».
**19.35** Дзіцячы фільм. «Вышэй за Радугу». 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Сычшык Пуцілін». Мастацкі фільм. 5-я серыя.
**22.05** «Сімвал Перамогі». Брэсцкая крэпасць.
**22.35** «Інкогніта з Пецярбурга». Мастацкі фільм па матывах п'есы М.В.Гогаля «Рэвізор».
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка Пятра Макаля.
**00.30** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.50** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** Серыял «Пракурорская праверка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.35** «Масква. Тры вакзалы». Серыял.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**20.00** «Дэльта». Тэлесерыял.
**21.45** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.50** Серыял «Глушэц. Працяг».

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Маю правы (юрыдычная праграма).
**08.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**09.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Марцін Пачобут-Адляніцкі.
**09.15** Басанож па свеце.
**09.40** Назад у будучыню.
**09.55** «Дом як поплаву», тэлесерыял: 7 серыя.
**10.40** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**11.25** «Лонданцы», серыял: 7 серыя.
**17.00** Паляванне на дзівосы.
**17.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Вінцэнт.
**17.40** «Глыбокая вада–2», серыял: 2 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Полацкае Евангелле.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** 54%: Права да веры.
**19.35** «Апантаныя-2», дак. цыкл: Калі ласка.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Канстытуцыя 3 траўня.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Людскія справы»: Жабракі побач: калі мы навучымся міласэрнасці?
**21.55** «Генерал нясконачнай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**22.30** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 7 серыя.
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.35** Аб'ектыў.

## 24 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Прыгодніцкі серыял «Востраў непатрэбных людзей» (Расія). 3-я і 4-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Серыял «Стацкі саветнік». Закл. серыя.
**16.35** Гістарычная драма «Вольф Месінг: бачыў скрозь час» (Расія). 3. Серыя.
**17.40** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** Вечар цяжкага дня.
**00.15** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Дзень спорту.
**01.00** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### АНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.55** «Пад прыкрыццём». Тэлесерыял.
**23.55** «Жанчына, якая спявае». Маст. фільм.
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.00** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «PRADA і пачуцці». ЗША - Мексіка, 2011 г.
**15.40** «Мае цудоўныя..».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Чырвоная планета». ЗША - Аўстралія, 2000 г.
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Фаталісты». Серыял. Закл. серыя.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). Заключная серыя.
**10.05** Беларуская кухня.
**10.45** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.40** Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). Заключная серыя.
**12.35** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**13.35** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**14.35** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**15.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**16.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.25** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). Заключная серыя.
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.50** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.45** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**22.30** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.40** Вострасюжэтны серыял «Танцы марыянетак» (Расія). Заключная серыя.
**00.30** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### Беларусь 3

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Міжнародныя кінафестывалі.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць! Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Чатыры ноль на карысць Танечкі».
**09.35** Серыял. «Замах». 8-я серыя.
**10.20** «Партызаны супраць Вермахта». 6-я серыя. Дакументальны фільм.
**10.50** «Святлодалёкай зоркі». Памяці мастака Аляксандра Ісачова.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.25** «Неба паўсюль аднолькавае». Мастацкі фільм.
**12.45** «Калейдаскоп».
**12.55** «Сімвалы эпохі». Міжнародныя кінафестывалі.
**13.10** «VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета». Канцэрт Маладзёжнага сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі. Дырыжор - Алпаслан Эрцюнгеалп.
**14.35** «Размаўляем па-беларуску».
**14.40** «Сцежкай ваўка». Дакументальны фільм пра складаныя ўзаемаадносіны на працягу вякоў чалавека і ваўка.
**15.20** «Пейзажы скрозь час». Дом Фрэдэрыка Чэрджа ў Алана.
**15.50** «Шостае пачуцце Людзвіга Фадзеева». Дакументальны фільм пра выдатнага расійскага матэматыка.
**16.30** Серыял. «Праклятыя ўтульны дом». 5-я серыя.
**17.15** «Размаўляем па-беларуску».
**17.20** «Персона». Віктар Мярэжка.
**17.50** «Калейдаскоп».
**18.00** «Сімвалы эпохі». Міжнародныя кінафестывалі.
**18.15** Мультфільмы.
**19.15** «Размаўляем па-беларуску».
**19.20** Дзіцячы фільм. «Без ашыйніка».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Сычшык Пуцілін». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**22.05** «Партызаны супраць Вермахта». 6-я серыя. Дакументальны фільм.
**22.35** «Каханнем трэба даражыць». Мастацкі фільм.
**23.55** «Святлодалёкай зоркі». Памяці мастака Аляксандра Ісачова.
**00.25** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.50** «Суд прысяжных».
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** Серыял «Пракурорская праверка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.35** «Масква. Тры вакзалы». Серыял.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**20.00** «Дэльта». Тэлесерыял.
**21.45** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.50** Серыял «Глушэц. Працяг».

### Белсат

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** «Людскія справы»: Жабракі побач: калі мы навучымся міласэрнасці?
**08.55** 54%: Права да веры.
**09.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Канстытуцыя 3 траўня.
**09.25** Паляванне на дзівосы.
**09.50** Назад у будучыню.
**10.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Вінцэнт.
**10.15** «Глыбокая вада–2», серыял: 2 серыя.
**11.00** «Генерал нясконачнай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**11.35** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял.
**17.00** Паляванне на дзівосы.
**17.20** «Урок любові Джанкарлё Боні», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**17.35** «Апантаныя-2», дак. цыкл: Калі ласка.
**17.45** «Глыбокая вада–2», серыял: 3 серыя.
**18.30** Моўнік: Што такое руская мова ВКЛ?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Чорным па белым: Мода на святы.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Таргавіцкая канфедэрацыя.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Аляксандр Сінкевіч і Алесь Лукашэвіч.
**21.55** «Генерал нясконачнай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**22.30** «Левасуддзе», тэлесерыял: 2 серыя.
**23.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.20** Аб'ектыў.

# Ангела Меркель: Аперацыя «пераемнік»

Алег НОВІКАЎ

**Чуткі пра магчымую хуткую адстаўку канцлера ФРГ выклікалі дэбаты наконт яе пераемніка. Прэса называе шэраг кандыдатаў.**



Поспех зборнай Германіі на Кубку свету ў Бразіліі шмат хто разглядае не толькі як спартовую падзею. Але ў самой Германіі ніякай ідыліі няма. Напярэдадні фіналу чэмпіянату з'явілася інфармацыя аб тым, што Ангела Меркель гатовая напісаць заяву з просьбай пра адстаўку. Пра гэта выданню «Der Spiegel», быццам, распавялі крыніцы ў партыйных і ўрадавых колах. У артыкуле, што прымерканым да 60-годдзя Меркель, адзначаецца, нібы кіраўнік урада спадзяецца пазбегнуць паўтарэння лёсу сваіх папярэднікаў — канцлераў Конрада Адэнаўэра і Гельмута Коля. Тыя карысталіся вялікай папулярнасцю сярод немцаў, але сышлі з улады — адзін у выніку ўнутрыпартыйнай палітычнай барацьбы, другі — паразы на выбарах, як палітыкі-лузеры. Як адзначае выданне, Меркель зараз знаходзіцца на піку сваёй палітычнай кар'еры і хацела працягнуць яе на іншым узроўні. Тое ж выданне сцвярджае, што Ангеле Меркель ужо прапанавалі пасаду генеральнага сакратара ААН.

Літаральна на наступны дзень пасля публікацыі канцлер дэзавуявала чуткі пра сваю адстаўку. Паводле Меркель, яна «мае жаданне добра працаваць на працягу ўстаноўленага перыяду». Аднак словы канцлера не супакоілі нямецкі палітыкум.

Па-першае, «Der Spiegel» — сур'ёзнае выданне, якое дакладна мае інсайдэраў унутры апарату ўраду і кіруючай партыі. Па-другое, відавочна, што хрысціянскім дэмакратам патрэбна новая фігура, якая можа своечасова падмяніць Меркель, што з-за ўзросту можа не пайсці на наступныя выбары. Паводле апытанняў, папулярнасць Меркель можа абярнуцца катастрофай для партыі. Другі пасля Меркель самы папулярны хрысціянскі дэмакрат у Германіі мае ўсяго 15 працэнтаў падтрымкі. Гаворка пра міністра абароны Урсулу фон дэр Ляйен (нар. 1958). Іншымі словамі, чуткі пра адстаўку, хутчэй за ўсё, не журналісцкая качка. Напэўна, Меркель думае пра маладую змену і разглядае варыянты (у тым ліку сваю адстаўку), якая б дапамагла перадаць пераемніку сімвалічны капітал.

Менавіта Урсулу шмат хто бачыць галоўным прэтэндэнтам у крэсла Ангелы Меркель. Хаця ў такім выпадку гендэрная традыцыя ў кіраўніцтве партыі захаваецца, Ангела і Урсула вельмі не падобныя. Ангела — з сям'і настаўнікаў, а Урсула — дачка прэм'ер-міністра зямлі Ніжняя Саксонія. У яе бліскучая адукацыя (па спецыяльнасці яна медык). Ангела жыве адна і без дзяцей. У Урсулы аж сем дзяцей, што, дарэчы, з'яўляецца яе візітоўкай. Ангела ў часы ГДР была дысідэнтам. Урсула мае за плячыма хрэстаматыйную біяграфію тыповага нямецкага палітыка — праца ў апараце фракцыі, дэпутацтва ў мясцовым савеце, мандат дэпутата рэгіянальнага парламента, міністр у складзе зямельнага ўраду, абранне ў кіраўнічыя структуры партыі і, нарэшце, — праход у бундэстаг за партфелямі міністра. Яшчэ ў 2009 годзе Урсула фон дэр Ляйен даверылі партфель міністра сям'і. У мінулым годзе ёй даручылі кіраваць абаронай.

Розныя палітыкі і па характары. Меркель вядомая як асцярожны палітык, які прасоўвае свае праекты шляхам кампрамісаў. Ад Урсулы можна чакаць радыкальных крокаў. Урсула фон дэр Ляйен вядомая як аўтар ініцыятывы па барацьбе з дзіцячай парнаграфіяй у сетцы пры дапамозе ўводу старонак-заглушак перад забароненым матэрыялам, што фактычна дазваляла паліцыі збіраць персанальныя дадзеныя карыстальнікаў. У выніку закон быў перагледжаны ў бок выдалення порнасайтаў замест іх блакавання. Раней Урсула таксама ваявала супраць кампутарных гульняў, якія прапагандуюць гвалт.

Свой імідж бескампраміснага палітыка яна яшчэ больш замацавала на пасадзе міністра абароны. Дзякуючы новаму міністру нямецкія караблі прынялі ўдзел у аперацыях у водах Лівіі і Самалі. Ужо абяцаная вайсковая дапамога ўраду Малі, які змагаецца з ісламістамі. Мінабароны лабіруе праект набыцця вельмі дарагіх дронаў-разведчыкаў. Важна сказаць, што Урсула — прыхільнік фарсіраванай еўрапейскай інтэграцыі, што не вельмі падабаецца шматлікім бюргерам.

Магчыма, менавіта з-за канфлікту характараў Меркель шукае на ролю пераемніка больш блізкага сабе па духу. У выніку ў кастынгу, як піша часопіс «Cicero», перамагла малавядомая Анегерэт Крамп-Карэнбаўэр, прэм'ер-міністр зямлі Саар. Раней Анегерэт Крамп-Карэнбаўэр (нар. 1960) хутчэй згадвалі дзякуючы цікаваму рэкорду. У 30 гадоў яна стала самым маладым у гісторыі зямельным міністрам унутраных спраў. У дадатак гэта быў першы выпадак, калі галоўным паліцэйскім прызначылі жанчыну. Слабая пазнавальнасць Анегерэт на федэральным узроўні звязаная з тым, што яна працуе выключна ў сваім рэгіёне, дзе прайшла шлях ад дарадчыка кіраўніцтва мясцовай секцыі CDU да прэм'ер-міністра. Акрамя офісу яе часта можна бачыць у касцёле. Анегерэт — заўзятая каталічка, і нават уваходзіць у Цэнтральны камітэт арганізацыі «Нямецкія каталікі».

Як піша прэса, Меркель вельмі падабаецца рабочы стыль Анегерэт падчас вядзення кааліцыйных перамоваў і праца яе цяперашняга ўраду. Па-сутнасці, ён чымсьці нагадвае стыль працы кабінету самой Меркель: ціхая канструктыўная праца без вялікіх скандалаў і рэкламы. Палітык з Саару можа, на думку прэсы, дапамагчы мадэрнізацыі CDU. Анегерэт патрабуе ўвядзення жаночай квоты ў партыйным кіраўніцтве і выступае за трансфармацыю традыцыйнай мадэлі сям'і, адказнасць абодвух бацькоў за выхаванне дзяцей (дарэчы, у Анегерэт іх трое).

Трэцім кандыдатам на пасаду пераемніка называюць міністра ўнутраных спраў Томаса дэ Мезьера. Праўда, у яго ёсць шкілет у шафе — удзел у сумнеўнай аферы па набыцці для арміі дронаў-разведчыкаў — так званых Euro-Hawk, якія ў выніку немцы так і не атрымалі. Апазіцыя патрабавала адстаўкі Томаса (тады кіраваў Мінбароны) з-за якога, быццам, у бюджэце ўзнікла дзірка на 600 мільёнаў еўра. Атакі апазіцыі ўрад адбіў, аднак Томаса хутка перавялі на працу ў МУС. Не дадае палітыку бонусаў і свежы скандал наконт таго, што амерыканскія спецслужбы працягваюць практыку праслухоўвання размоў грамадзян ФРГ.

Вось такія кандыдаты за пасаду пераемніка Ангелы Меркель і іх стартавыя пазіцыі. Палітолагі лічаць, што непасрэдна гарачая фаза барацьбы пачнецца ўвосень наступнага года.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эва Маралес



Прэзідэнт Балівіі заявіў пра намер ісці на трэці прэзідэнцкі тэрмін. Наступныя выбары балівійскага гаранта прызначаныя на кастрычнік. Маралес — першы ў гісторыі прэзідэнт індзейскага паходжання — кіруе краінай з 2006 года. Яшчэ ў 2009 годзе вышэйшы суд абмежаваў права займаць прэзідэнцкую пасаду двюма кандэнцыямі, аднак у мінулым годзе той жа суд вырашыў, што пастанова не тычыцца Маралеса, які прыйшоў да ўлады да прыняцця папраўкі. Галоўны праціўнік Маралеса ад правай апазіцыі атрымаў бы 30 працэнтаў галасоў, калі б выбары праходзілі заўтра. Прычыны адноснай лаяльнасці насельніцтва да рэжыму звязаныя з поспехамі эканамічнай палітыкі Маралеса. Яму ўдалося наладзіць продаж нацыяналізаваных газавых і медных кампаній, што ўзняла ВУП да шасці працэнтаў штогод. Дарэчы, ужо апублікаваная выбарчая праграма Маралеса. Тэкст вытрыманы ў рэзкім антыамерыканскім духу, аднак пры гэтым прэзідэнт дае гарантыі замежным інвестарам адмовіцца ад нацыяналізацыі.

### Сяргей Мітрохін



Лідар расійскай партыі «Яблоко» заклікаў прыбраць імя Леніна з назваў станцый маскоўскага метро: перайменаваць «Бібліятэку імя Леніна», а таксама Ленінскаму праспекту даць імя Высоцкага. Галоўным аргументам для перайменаванняў з'яўляецца тое, што Ленін, на думку Мітрохіна, быў арганізатарам генацыду рускага народу. Ініцыятыва, зразумела, не спадабалася камуністам, аднак іх рыторыка выклікала проста шок. Уладзімір Бяссонаў, адзін з сяброў фракцыі Кампартыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ) у Думе, заявіў: «Леніна прыбіраць нельга, паколькі інакш магчымыя негатыўныя наступствы ў працы метро». «Ленін — гэта сімвал, а калі чапаюць сімвалы, магчымы аварыі і ўзрушэнні. Ёсць і іншыя прыклады: калі захоўваецца помнік Леніну ва ўстанове, яна працуе. А калі прыбіраюць — установа закрываецца», — распавёў дэпутат ад КПРФ. Між тым, высвятляецца, што ўрад паступова ліквідуе бальшавіцкую тапаніміку. Аднак робіць гэта вельмі хітра. Так, на днях у Маскве перайменавалі станцыю імя Падбельскага (адзін з удзельнікаў кастрычніцкай рэвалюцыі). Новая назва — станцыя імя Ракасоўскага, а прычына перайменавання — надыходзячая 70-я гадавіна перамогі над фашыстамі.

### Гульнара Карымава



Апошнім часам ходзіць шмат чутак, што Гульнара, дачка ўзбекскага прэзідэнта, пасля сваркі з бацькам аказалася ў апале. І бацька пачаў помсціць у тыпова ўсходнім стылі — адправіў дачку пад хатні арышт, а яе сяброў — наогул на нары. Так, 14 ліпеня суд Ташкенцкай вобласці прысудзіў бізнэс-партнёраў старэйшай дачкі прэзідэнта Узбекістана — Рустама Мадумарава і Гаянэ Авакяна да 10 і 9 гадоў пазбаўлення волі адпаведна. Абодвух асудзілі за незаконнае ўтрыманне валюты і нежаданне плаціць падаткі. Прычым Рустам з'яўляецца грамадзянскім мужам Гульнары. Вельмі жорсткая расправа над бой-фрэндам дачкі таксама можа быць шантажам. Дасюль месца цяперашняга знаходжання Карымавай не вядомае. Некаторыя лічаць, што яна збегла ад узбекскіх спецслужбаў і схавалася ад бацькі недзе на Захадзе. Адпаведна, вельмі жорсткі судовы вердыкт супраць грамадзянскага мужа — сродак выцягнуць Гульнару на радзіму.

# Ігнат Урублеўскі — забыты

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**У экспазіцыі выставы «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», што прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі, у раздзеле «Шляхецкія сядзібы» сярод славутых твораў чымсьці невытлумачальным, годным чапляў партрэт мужчыны сталага веку з іскрыста-блакітнымі вачыма. Гэта — Карл Ельскі.**



Ігнат Урублеўскі і мастак Генрых Вейсенгоф у маёнтку бацькоў Генрыха ў Русаковічах, што пад Мінскам, 1913 г.

Палатно, напісанае ў 1891 годзе, спалучае ў сабе рысы познеакадэмічнага жывапісу XIX стагоддзя, што выразна перагукацца з элементамі «сармацкага» партрэта, уласцівымі традыцыям мастацтва барока XVIII стагоддзя і разам з тым як бы прадчувае (і ўвасабляе) псіхалагічны рэалізм будучага, XX стагоддзя. Вось такое «тры ў адным».

Ельскія здавён займалі пачэснае месца ў ліцвінскім краі і згадваюцца даследчыкамі ад 1570 года. Іх мянушка — Пелеш («радавое гняздо»), што пазней замацавалася ў якасці фамільнага шляхецкага герба. Два срэбраных мячы, складзеныя накрыж, дзяржаннямі да долу, канцамі ўгару на чырвоным полі. На рыцарскім шоламе тры пяры страуса, набытыя за адважныя справы продкаў таго дома ў мужных бойках з непрыяцелем. Разляцеліся прадстаўнікі роду ад Пінска-Мазыра да Віцебшчыны, Міншчыны ды Гарадзеншчыны і далей…

Карл Ельскі — адзін з прадстаўнікоў гэтага старасвецкага шляхецкага роду, здаецца, нічым надзвычайным і не вылучыўся. Хіба што…

## Род Ельскіх

Уладзіслаў Ельскі (каля 1700–1764) быў буйным вайсковым і грамадскім дзеячам у Вялікім Княстве Літоўскім. Стараста пінскі і палкоўнік пяцігорскі, ён некалькі разоў абіраўся паслом сойму Рэчы Паспалітай. А яшчэ, кажучы сённяшняй тэрміналогіяй, быў адзіным кандыдатам на трыбунальскае маршалкоўства ад палітычнай групоўкі Радзівілаў—Чартарыйскіх—Сапегаў.

Станіслаў Ельскі (? –1829) — кавалер ордэна Св. Станіслава, маршалак ігуменскі і скарбнік дзяржаўнай казны ВКЛ, меў яшчэ чын палкоўніка лёгкай кавалерыі, а ў дадатак добра граў на скрыпцы. (Захапленне гэта ён перадаў спадчыннікам).

Унук Станіслава — Міхал (Ксаверый Жыгімонт) Ельскі (1831–1904), якому перайшоў маёнтак Дудзічы, уславіўся як пісьменнік, кампазітар (напісаў каля 100 твораў, у якіх скарыстоўваў народныя мелодыі) і скрыпач-віртуоз. Міхал гастраляваў у Мінску, Кіеве, гарадах Польшчы і Германіі. Але заслугі і здабыткі яго мізарнеюць у параўнанні з унёскамі Аляксандра Ельскага, чыё 165-годдзе ад нараджэння было адзначана правядзеннем міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Універсітэты Ельскіх» («Дзеля блізкіх і будучыні»).

Брат Міхала, гісторык краю, ідэаліст і інтэлектуал Аляксандр Вікенцій Ельскі (1834–1916), гаспадарыў у фальварку Замосце блізу Дудзічаў, размаўляў па-беларуску.

Аляксандр распачаў літаратурную дзейнасць у 1860 годзе пад псеўданімамі Бацян з-над Пціча і Ліцьвін-грамадзянін, з допісаў у «Кур'ер Віленскі». Быў паднаглядным у 1963 годзе. А ў наступным 1864 годзе запачаткаваў у Замосці збор экспанатаў для Музея старажытнасцяў, а таксама для архіва і бібліятэкі. Ёсць меркаванне, што Аляксандр быў аўтарам твора «Слова аб праклятай гарэліцы і аб жыцці і смерці п'яніцы», запісаным на Валожыншчыне збіральнікам фальклору Міхалам Федароўскім.




Праект медалю, прысвечанага 500-годдзю Грунвальдскай бітвы (1910), аўт. І. Урублеўскі

Сярод наведвальнікаў гэтага ўнікальнага для XIX стагоддзя Музея старажытнасцяў былі такія выдатныя дзеячы навукі і мастацтва свайго часу, як паэт і вучоны-славіст, будучы аўтар брашуры пра беларускую ментальнасць — Уладзіслаў Сыракомля, мастак Генрых Вейсенгоф, з родам якога гаспадара лучылі сваяцкія сувязі, музыказнавец і кампазітар Ян Карловіч, доктар Напалеон Чарноцкі, асімілятар і адаптатар брашуры «Дзядзька Антон» і кіраўнік таемнага гуртка самаадукацыіі гімназістаў у Слуцку.

«Захапленне тытанічнай працай і ахвярнасцю Ельскага» выказаў сусветнавядомы натураліст з-пад Узды — Наркевіч-Ёдка. Аб сваіх «самых лепшых успамінах» напісаў 12 чэрвеня 1892 года этнограф і гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі. У «Кнізе для наведвання музея» ў Замосці, закладзенай у 1882 годзе, азначана 234 аўтографы. Захоўваецца гэта кніга ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве пад № 5087.



Ігнат Урублеўскі. Партрэт Карла Ельскага

## Вяртанне да героя

Асоба, увекапомненая на палатне, — харунжы ігуменскі, уладальнік маёнтка Дудзічы — Карл Станіслаў Ельскі (?—1855?) таксама пакінуў неблагую памяць нашчадкам. Выхаванец медычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта, ад бацькі ён пераняў любоў да музыкі (да скрыпкі) і ўдасканаліў гэтае сваё ўмельства ў знакамітых тады «Кіфелінга і Дзяшчынскага» (вядомы адзін яго музычны твор — «Паланез 1837 года»).

Але менавіта з яго гаспадараннем знітаваны ўзлёт не толькі Дудзічаў, але і ўсяго рэгіёна. Даследчыкі А. Кіштымаў, Н. Ільініч, абапіраючыся на інвентар 1844 года, пішуць наступнае: землі тут «шэрыя, з чарназёмам, ураддівыя, сярэдняя ўраджайнасць 6 зярнят». Душ рэвізскіх было мужчынскага полу 407, а жаночага — 411. Кожны сялянскі двор быў надзелены 32 моргамі (адзінка вымярэння, якая прайшла разам з Валочнай памерай; адна валока раўнялася 30 моргам, або 21,36 га). Да Дудзічаў адносіліся, апрача мястэчка, вёскі Дудзічы, Церабель, Распуцця, Бялькевічы, Грэбень, Казлоў Барок, а таксама фальваркі Казловічы і Быліновічы. У мястэчку Дудзічы жылі рамеснікі — 12 двароў, «абучаныя гаспадарскім коштам». Зямлі ў іх карыстанні было небагата: па 1/3 морга на кожную гаспадарку (каля 25 сотак) — на агарод. Сялянам, якія пажадалі займацца рамёствамі, Карл Ельскі выпісаў майстроў-настаўнікаў з-за мяжы.

Абмінаючы пералік майстроў у інвентары, хіба для ўзору пакажам выгляд і стан звычайнай сям'і і гаспадаркі рамесніка Рыгора Патамскага, які меў ад веку 50 гадоў, жонку Насту 40 гадоў, сына Гаспера 4 гады, дачку Паўліну 2 гадкі. Трымаў ва ўласнай гаспадарцы: 2 каровы, 4 свінні, птушак.

Сяляне Дудзічаў (30 двароў) апрацоўвалі зямлю на валах. Зноў для ўзору акрэслім «сярэднюю» сям'ю Паўлюка Бахара з 6 душ. Яны трымалі карову, 5 валоў, 6 свіней.

Жылося сялянам Ельскага зусім няблага, пра што сведчыць тое, што ў кожным двары было па 4–6 кароў і валоў, а ў Васіля Кузьміцкага — 7, у Янкі Васілінкі — аж 9. У кожным двары трымалі па 5–10 свіней. У Дудзічах не было бабылёў — сялян, якія не мелі сваёй гаспадаркі. Спрыялі развіццю маёнтка і штомесячныя кірмашы (па панядзелках) ды тры гадавыя кірмашы, якія ладзіліся на падставе «прывілія», дадзенага яшчэ Станіславам Панятоўскім.

## Мастак, якога няма ў энцыклапедыях

Урублеўскія — досыць распаўсюджанае прозвішча ў Беларусі, зрэшты, як і на ўсіх абсягах былога ВКЛ.

Але мастак Ігнацій Урублеўскі — асоба без перабольшвання абсалютна не вядомая не толькі ў беларускім мастацтве. «Ягонага прозвішча пакуль няма ні ў адным польскім слоўніку ці даведніку, хоць архіў пасля смерці мастака захоўваецца ў Інстытуце мастацтва Польскай АН у Варшаве», — кажа намеснік дырэктара па навуцы НММ Надзея Усава, якой, дарэчы, выказваем бязмежную ўдзячнасць за прадстаўленую магчымасць пазнаёміцца з яе асабістым архівам (у тым ліку з вынятакамі матэрыялаў, дасланых панам Анджэем Ельскім з Радама, а таксама панам Кшыштафам Радзівілам з Варшавы).

# мастак са знакавага роду

Не здзейсніўшы сябе ў якасці зоркі «першай велічыні», што пазбавіла цікаўнасці да ягонай асобы ў палякацэнтрычных даследчыкаў нават у якасці «крэсавага» творцы, ён варты ўвагі як моцны прафесіянал універсальных здольнасцяў. Занядбанасць імя гэтага творцы — не адзінкавае для нас, але пры амаль цалкам вынішчанай мастацкай «культурасферы» ў Беларусі пачатку ХХ стагоддзя недаравальнае.

Таму, хоць збольшага, асветлім яго жыццёвы і творчы шлях.



Праект будынка музея ў Мінску, выкананы Ігнатам Урублеўскім па замове Вільгельма Ельскага ў 1919 г.

## Вандроўнік

Нарадзіўся Ігнат Урублеўскі 26 жніўня 1858 года ў маёнтку Голні (67 кіламетраў на поўдзень ад Гродна), які належаў Сафіі Ельскай (1829–1912) і Яну Урублеўскаму, памешчыку родам з Украінскага маёнтка Сквіры. Ігнат быў старэйшым з пяці дзяцей. У ягоным радаводзе паядналіся Ельскія, Манюшкі, Сапегі, Вайніловічы.

Малодшы з братоў, Станіслаў — генерал, у 1930-я гады камандаваў кракаўскай ваеннай акругай, сярэдні — Альфрэд быў ксяндзом-інфулатам у Рыме, сястра Караліна стала манашкаю, а Караль эміграваў у Новую Зеландыю.

Анджэй Ельскі згадваў, што дзяцінства Урублеўскіх прайшло ў маёнтку Ігнацічы, цяпер Калініна, Мінскай вобласці, у сядзібе высланага ў Чалябінск за ўдзел у паўстанні 1863 года дзеда Уладзіміра, былога выпускніка Сарбоны. Станаўленне Ігната адбывалася пад апекаю іншага суродзіча — Аляксандра Ельскага з Замосця. З вялікім дапушчэннем мажліва меркаваць аб светаўспрыманні юнака, які потым жыў у «вялікім доме з садам» на вуліцы Садовай, потым на Мазавецкай у Варшаве і навучаўся ў Рысавальнай школе Войцэха Герсана (1831–1901). У пераплаве герсанаўскага «рацыяналізму з гістарызмам», у той час ужо настойліва гучалі ноткі «крытычнага рэалізму». Відаць, там ён пазнаёміўся яшчэ з адным выхадцам з Краю, Генрыхам Вейсенгофам (1859–1922), чый шлях у мастацтва быў больш упартым і мэтанакіраваным.

Жывапісец-партрэтыст Урублеўскі пасля заканчэння школы Герсана шмат увагі надаваў малюнку і звязаў свой лёс з варшаўскімі выданнямі «Biesieda Literacka» ды «Tygodnik Ilustrowany», дзе друкаваў свае сухавата-дакументальныя творы, што сведчылі аб ягоных шматлікіх вандроўках па фальварках былога ВКЛ. Гэта былі выявы мястэчак, немудрагелістыя абразкі з імгненнямі штодзённага жыцця, касцёлы ды іншыя помнікі даўніны, мясціны каралеўскага палявання ў Белавежскай пушчы. Яшчэ, як прызнаецца ён у адным з лістоў: «...праектаваў касцельную мэблю, а таксама маляваў алтары».

## Дызайнер

Вандруючага мастака падтрымлівалі не толькі ганарары ў перыядычных выданнях. Істотнай крыніцай прыробку было супрацоўніцтва з мэблевай фірмай «Simler i Goszycski», а таксама з фірмай, што займалася вырабам дробнай пластыкі (адліўкамі з бронзы) — Bracia Jopierscy.

Але ж ці толькі дзеля заробку канструяваў мастак мэблю? А можа, ён проста апярэдзіў свой век, закладваючы прафесію мастака-дызайнера, якая стане такой пачэснай у ХХ стагоддзі.

Ігнат Урублеўскі бярэ ўдзелы ў разнастайных спаборах (праектуе медаль, прысвечаны 500-годдзю Грунвальдскай бітвы), дзе паказвае сябе здольным скульптарам-баталістам, майстрам тонкай дэталізацыі. (Аб плёне творцы Урублеўскага ў графіцы, дэкаратыўна-ўжытковым мастацтве і дробнай пластыцы сведчыць залаты медаль на міжнароднай выставе ў Парыжы 1925 года).

Дзякуючы знаёмству з краёвай інтэлігенцыяй і Аляксандру Ельскаму, аднаму з ініцыятараў выдання, які меў «два партфелі» аўтографаў, лістоў і рэчамі, звязанымі з Міцкевічам. Мастак Урублеўскі выканаў лірычныя малюнкі: «Навагрудак», «Нясвіж», «Свіцязь» да памятнай кніжкі, прысвечанай 100-й гадавіне паэта.

У 1900 годзе, пасля працяглай вандроўкі мастака ў Італію і Францыю, як адзначае Надзея Усава, «стыль Урублеўскага істотна змяняецца». Ён даскана авалодвае тэхнікай медзярыту і афорту і ў 1907 годзе выдае невялікім накладам альбом «Nieswiz — zamek rysowai i rytowai Ig. Wryblewski. Paryz. 1907».

## Архітэктар

Яшчэ ў 1888–1891 гадах штолета з тлумнай Варшавы, з якой было зніткавана жыццё, Ігнат Урублеўскі наязджае ў родныя Голні, падоўгу жыве ў Ігнацічах, наведвае Дудзічы. Відаць, у тыя гады ён і атрымаў замову ад больш забяспечаных Ельскіх на нізку партрэтаў прадстаўнікоў знакавага роду для Беларусі, па вызначэнні Мальдзіса.

Падрабязны агляд васьмі партрэтаў сямейнікаў — ад копіі выявы Аляксандра Ельскага 1888 года, што захоўваецца ў архіве Анджэя Ельскага ў Радаме, да партрэтаў тых Ельскіх, якія да вайны зберагаліся ў Беларускім дзяржаўным музеі, і твораў з фонду НММ — утрымліваецца ў публікацыі «Ельскініяна Урублеўскага». Таму, каб замкнуць біяграфічнае кола, рушым далей.

Нельга абмінуць і яшчэ адзін вектар скіраванасці творчых памкненняў мастака — архітэктурны. Па замове пляменніка Аляксандра Ельскага, Вільгельма (1867–1919), які пераняў маёнтак ад маці, Урублеўскі перад Першай сусветнай вайной праектуе і наглядае за будаўніцтвам сядзібнага дома ў Ігнацічах. Сіметрычная кампазіцыя двухпавярховага мураванага будынка была ўпрыгожана барочнай ляпнінай, галоўны ўваход выразна акцэнтаваны параднай лесвіцай, а авальныя вокны ў спалучэнні з балконам падкрэслівалі эстэтызм задумы аўтара. Пэўны час у сядзібе месцілася школа, а пасля, калі яна пераехала ў новае памяшканне, занядбаны сядзібны дом выставілі на продаж.

Другі архітэктурны шэдэўр — Projekt Muzeuma w Micsku Lit. — замоўлены тым жа Ельскім, распрацаваны Урублеўскім толькі на паперы. Двухярусная будыніна мусіла быць пабудовай вышэйшай за 20 метраў і падзеленай на 5 паверхаў, што мелі цыркульна-анфіладную структуру экспазіцыйных залаў з натуральным, купальным асвятленнем і ўтульным унутраным дворыкам (12 метраў). Справа ў тым, што ў спадчыну Вільгельму ад дзядзькі Аляксандра перайшоў збор музея з Замосця. Яго, з уласнымі зборамі польскага жывапісу, а таксама з той часткай гісторыка-мастацкіх рэчаў, што мусілі паступіць з мяхоў «адмыслова-зангажаваных польскіх вайсковых адзінак», уладальнік меўся перадаць гораду. Спраўдзіцца гэтаму праекту было не дадзена.

P.S.: Вандроўны «краёвы мастак», мастак памежжа — спадчыннік Юзафа Пешкі ды Напалеона Орды — уласнай сям'і не стварыў. Апошнія дні яго прайшлі на віле пляменніцы пад Варшавай, у Залессі Дольным. Памёр Ігнат Урублеўскі з надыходам вясны — 1 сакавіка 1953 года.

Некалькі работ мастака захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і Музеі гісторыі і культуры (медзярыты і афорты), некаторыя зберагліся ў спецыяльных зборах Нацыянальнай бібліятэкі, Інстытута Мастацтваў ПАН у Варшаве, у Нацыянальным музеі Кракава, у прыватных калекцыях Радама.


Войцэх Герсан. Кейстут і Вітаўт у палоне ў Ягайлы, 1873 г.

# Кароль рамансу Рыгор Самохін

Сяргей ЧЫГРЫН

**Пошукамі слядоў выдатнага беларускага кампазітара, дырыжора і музыканта Рыгора Самохіна я захапіўся яшчэ ў 1993 годзе. Тады і пачаў па драбніцы шукаць ягоныя жыццёвыя і творчыя звесткі.**



Прайшоў час. Але ў друку так і не з'явілася даследчых матэрыялаў пра Рыгора Самохіна. Праўда, пра яго згадалі ў сваіх кнігах Віктар Скарабагатаў, Зміцер Сасноўскі, Леанід Лыч. Але гэта былі невялікія згадкі. Дый і Віктар Скарабагатаў прызнаўся, што «сёння мы маем даволі сціплыя звесткі пра гэтага кампазітара».

## Станаўленне

Дык хто ж такі Рыгор Самохін (1911–1944), у якога музычныя здольнасці і моцнае імкненне да музыкі рана праявіліся, але розныя абставіны доўгі час не давалі магчымасцей мэтазгоднага і сістэматычнага развіцця гэтых здольнасцей?

Рыгор Самохін нарадзіўся ў 1911 годзе ў Горках на Магілёўшчыне ў сям'і агранома. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Горацкай царкоўна-прыходскай школе, а пасля вучыўся ў Аршанскай сямігодцы. Менавіта ў Оршу ягонага бацьку перавялі на працу, туды і пераехала ўся сям'я Самохіных.

Музычнае жыццё ў тых мясцінах амаль што зусім адсутнічала, высокакваліфікаваных настаўнікаў музыкі таксама амаль не было. А дзейнічалі толькі нешматлікі аматарскія музычныя гурткі, у якіх малады музыка прымаў чынны ўдзел. Ён спрабуе свае сілы як харыст, як выканаўца на народных інструментах, і гэтае сутыкненне са светам гучання поўнасцю вырашыла далейшы жыццёвы шлях юнака і ягоны лёс.

Нястрыманае жаданне тварыць самому прымусіла Рыгора Самохіна ехаць у 1928 годзе ў Мінск, каб там упарта і старанна ўзяцца за ўлюбёную справу. Ён марыць аб класе тэорыі і кампазіцыі ў Мінскім музычным тэхнікуме, але адсутнасць падрыхтоўкі не дазволіла ажыццявіць гэтае жаданне.

Каб усё ж такі мець магчымасць вучыцца ў музычнай установе, Рыгор паступае на клас кантрабасу прафесара Мітрафана Славачэўскага. Добрыя музычныя здольнасці дапамаглі яму хутка выйсці на жаданы шлях. Яму было дазволена адначасова з класам кантрабасу наведваць і клас кампазіцыі прафесара Мікалая Аладава. А ў 1932 годзе, калі ў Мінску адкрываецца кансерваторыя, ён быў пераведзены туды ў клас вядомага прафесара кампазіцыі, аднаго з вучняў Рымскага-Корсакава — Васіля Залатарова.

Адначасова з атрыманнем кампазітарскай адукацыі, Рыгор Самохін не спыняе далейшага знаёмства з практычнымі накірункамі музычнай дзейнасці. Працуе пры Мінскім радыё кіраўніком домбравага ансамбля, і як кантрабасіст — у сімфанічным аркестры, а потым — у філармоніі, дырыжорам аркестра беларускіх народных інструментаў. Гэта дапамагло кампазітару добра пазнаёміцца з тэхналогіяй музычнага гучання, з разнастайнымі тэхнічнымі магчымасцямі асобных інструментаў. І заклала асновы яго сімфанічнага мыслення, што праявілася ва ўсіх галінах ягонай творчасці.

Вынікам кампазітарскай дзейнасці Рыгора Самохіна ў гэты час стаў цэлы шэраг твораў самага разнастайнага змесу і формы. Шматлікія апрацоўкі беларускіх народных песень, рамансы на словы беларускіх паэтаў, капрычыо, уверцюры, беларускія рапсодыі, дзве сюіты для аркестра народных інструментаў, трыа-фантазія для скрыпкі, віяланчэлі і фартэпіяна, тэмы з варыяцыямі і сімфонія для вялікага сімфанічнага аркестра — яго творчыя здабыткі гэтага перыяду.



## Творчасць

З пачаткам Другой сусветнай вайны Рыгор Самохін застаецца на тэрыторыі Беларусі. Наступленне немцаў было настолькі імклівым, што ўцячы здолелі толькі савецкія кіраўнікі і іх сем'і. Для дзеячаў культуры, як і простых беларусаў, акупацыя наступіла раптоўна. Таму Рыгор Самохін нікуды не паспеў уцячы, ён па-ранейшаму працуе дзеля справы развіцця нацыянальнага мастацтва.

Кампазітар стварае шэраг новых твораў, якія заўсёды карысталіся поспехам і любоўю як у выканаўцаў, так і ў слухачоў. Ён праводзіць вялікую працу з беларускім нацыянальным ансамблем цымбалаў, якасць выканання якога кампазітар уздымае на вялікую мастацкую вартасць.

Тут трэба нагадаць аб арганічнай сувязі ягоных твораў з народнай музычнай крыніцай. Пры гэтым кампазітар ніколі не абмяжоўваецца простым «цытаваннем» народных мелодый. Ён выкарыстоўваў агульна-інтанацыйны змест народнай песні, яе асабістыя звароты і напеўкі, якія надавалі твору своеасаблівую непаўторнасць. Важным раздзелам працы кампазітара ў галіне народнага мастацтва з'яўляецца ягоная праца з цымбальным ансамблем, на якую ён паклаў шмат сіл. Ён вызначаў склад ансамбля, далучаў туды жалейкі і баяны, якія сваім гучаннем упрыгожвалі агульнае сугалоссе.

Ансамбль цымбалістаў быў нязменным удзельнікам беларускіх канцэртаў і святаў. Выступаў як самастойная адзінка, а таксама суправаджаў выкананне народных песень і танцаў. Рыгор Самохін працаваў не толькі як умелы і здольны кіраўнік ансамбля, але і напісаў для яго шэраг твораў, у якіх таленавіта выкарыстоўваў шматлікія гукавыя фарбы і асаблівасці гучання цымбалаў.

Буйнейшы твор Рыгора Самохіна ў гэтым шэрагу — «Сюіта для цымбальнага ансамбля», якая складалася з чатырох частак, кожная з якіх магла гучаць і як самастойны музычны твор. Вытрыманасць формы, шмат настрою, багацце пачуццяў, ад паэтычнай лірыкі да яскравай вясёласці, рабілі гэтую сюіту класічным творам.

У сваіх апрацоўках народных песень для голасу кампазітар імкнуўся захаваць своеасаблівасць іх мелодыкі, знайсці адпаведныя сродкі гарманізацыі, якія не перагружалі яе чужымі ёй гучаннямі, не парушалі цэласнасці, але падкрэслівалі яе музычна-тэкставы змест. Гэта маглі быць шырокія, гуслевага характару, акорды («Ды ўжо сонейка»), ці пераборы гармоніка («Ой, пад дубам»), ці кантрапунктычныя падгалоскі, скампанаваныя ў народна-песенным стылі («Каліна-малінушка»).

У рамансавай творчасці Рыгору Самохіну ўдавалася правесці адзіную лінію настрою праз увесь раманс. Перад слухачамі разгортваўся цэласны, завершаны музычны вобраз. Тут надзвычайна вялікая роля была фартэпіяннага суправаджэння, якое вельмі часта ўяўляла сабою зусім самастойныя эпізоды-прэлюдыі, інтэрлюдыі і канцоўкі...

Падчас нямецкай акупацыі Рыгор Самохін напісаў оперу «Каваль-ваявода» на лібрэта добра вядомага даваеннага рэжысёра і драматурга, аднаго з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра Яўгена Міровіча. Потым кампазітар напісаў дзіцячую оперу «Мухамор» паводле вершаванай казкі Максіма Танка, аперэту «Залёты» паводле камедыі Дуніна-Марцінкевіча. У 1942 годзе выдавецтва Кастуся Езавітава ў Рызе выдала асобнай брашуркай раманс Рыгора Самохіна «Непагодны вечар» на словы Максіма Багдановіча. Наклад выдання быў 2000 асобнікаў.

У 1944 годзе Рыгор Самохін цяжка захварэў. Спадзяваліся, што ён адужае хваробу, але гэтага не адбылося. Кампазітар і музыкант памёр ва ўзросце 33 гадоў. Праўда, ёсць адна версія, што ён трагічна загінуў у Мінску падчас бамбёжкі. І другая, што, нібыта ў 1944 годзе, Самохін эмігрыраваў на Захад. Але пасля вайны ніхто і ніколі з беларускіх эмігрантаў Рыгора Самохіна не згадваў.



**Тэатр оперы і балета пад час акупацыі**



**Будынак цяперашняга тэатра імя Янкі Купалы, чэрвень 1943 г.**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 954

Падпісана да друку 18.07.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.